


# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень


НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

28 верасня 2018 года №39 (1222)











ISSN 1991–7155
39
9 771991 715006

Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/


# «Можа, у тым вязе замураваная князёўна»

**Найстарэйшы вяз краіны сохне, пакуль людзі разбіраюцца з дакументамі**




старонка 2

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА



**Былым галоўнаму выратавальніку і кіраўніку Маладзечанскіх электрасетак прысудзілі па тры гады**

старонка 4

ТЭМА НУМАРА

# «Можа, у тым вязе замураваная князёўна»

## Найстарэйшы вяз краіны сохне, пакуль людзі разбіраюцца з дакументамі

МАЛАДЗЕЧНА

**У вёсцы Верхнія Талуі Маркаўскага сельсавета расце дрэва, роўнага якому няма ні ў Беларусі, ні ў бліжэйшых краінах. Эксперты называюць розныя даты яго ўзросту – аж да 700 год.**

Атрымліваецца, гэты вяз мог бачыць вялікіх князёў літоўскіх, шматлікія войны, жыццё мясцовых пры самых розных эпохах, што змяніліся адна за адной. Аднак жывы ўнікальны помнік можа загінуць, калі яму не дапамагчы.

### Дупло пачало зацягвацца

Вядомасць вяз з Талуёў набыў, калі ў 2013 годзе пра яго ў «РГ» напісаў краязнаўца **Міхась Міхалевіч**. У артыкуле ён распавёў аб тым, што з вышыні вяза бачныя Смаргонь, Маладзечна і Вілейка, якія гістарычныя падзеі разгортваліся вакол і колькі ўдачлівых выпадкаў павінны былі скласціся, каб дрэва захавалася праз стагоддзі.

Міхалевіч заўважыў, што падчас засух 2015 і сёлетняга года вадаём каля дрэва пачаў высыхаць, а затым сохнуць пачало і дрэва.

– Можа, гэта рэакцыя на тое, што зачапілі карані, калі ставілі плот вакол у 2016 годзе. Галоўнае, каб была не грыбковая «галандская хвароба вязаў». Мне нават шкада, што праз свой артыкул надаў дрэву папулярнасць. Часам для прыроды лепшая ахова – невядомасць ад людзей. Спадзяваўся, што пасля артыкула адпаведныя службы зробяць усё магчымае, каб захаваць дрэва-гонар Павілля.

Краязнаўца дадае, што ў папулярнасці ёсць і станоўчы бок. Пасля публікацыі вакол дрэва прыбралі, а ў дупло перасталі кідаць смецце і попел, адарвалі апопкі, а пад шатамі больш нічога не складаюць.

– За гэта вялікі дзякуй **Івану Дурэйку**. Ён даглядае старажытнае дрэва. А дупло пачало зацягвацца, – кажа Міхалевіч.

### Памералі, што дрэву 700 год

Іван Дурэйка на пенсіі вярнуўся ў бацькоўскі дом, каб жыць на прыродзе. Расказаў, што пасля артыкула ў «РГ» зразумеў, наколькі велічнае дрэва расце побач, і стаў яго даглядаць. Летась заўважыў, што з'явіліся сухія сукі. У той жа час высыхаў вадаём.

– У 2016 годзе прыязджалі з інспекцыі аховы прыроды, сельвыканкама – прыбіралі, кусты павыразалі, паставілі плот і шыльду «Вяз гладкаствольны 14-15 стагоддзя». У 2017-м лазерам мералі з Акадэміі навук, сказалі, яму 700 год. Але вяз усё сохне. Трэба ратаваць дрэва.

### Дрэву трэба надаць статус помніка прыроды

Галоўны спецыяліст Маладзечанскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў **Сяргей Танана** расказаў, што вырашаецца пытанне аб тым, каб надаць вязу статус помніка прыроды рэспубліканскага значэння.

– Вяз – не вельмі распаўсюджанае дрэва для Маладзечаншчыны. Вядома, што ў краіне сярод зарэгістраваных настолькі старых няма. Але афіцыйна ён пакуль не абвешчаны помнікам прыроды.



Іван Дурэйка пасля публікацыі ў «РГ» 2013 года пачаў даглядаць вяз.

Фота Аляксандра МАЦЭВІЧА

### Уратаваць дрэва каштуе 1500 рублёў

Старшыня Маркаўскага сельвыканкама **Іван Мацэвіч** патлумачыў, што дрэву не хапае вільгаці, таму што ў вадаёме шмат глею. Яго трэба пачысціць. Каб ацаніць маштаб работ, на месца запрашалі кіраўніка меліярацыйнай станцыі.

> **Ацанілі, што трэба тры дні працы са спецтэхнікай, і абыдзецца праца каля 1500 рублёў. Для такіх работ патрэбны заказчык, у якасці якога не можа выступіць сельвыканкам.**

– Статус помніка прыроды дапамог бы хутчэй і прасцей вырашаць гэтыя пытанні. Я за добрую справу, дрэву трэба дапамагчы.

### Раз дупло зацягнулася, дрэва жыве

Вязу ў Талуях не адно стагоддзе, пацвердзіла старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат біялагічных навук Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук **Ірына Вазнячук**. Дакладны ўзрост спецыяліст не назвала, але адзначыла, што ў Беларусі няма зарэгістраваных дрэў узростам 700 год.

Па меркаванні Вазнячук, менавіта сажалка магла быць прычынай, чаму дрэва жыве так доўга. А змяненне грунтавых вод можа быць адной з найважнейшых прычын, чаму пачало сохнуць – парушыўся рэжым сілкавання вільгацю.

Добрым знакам для дрэва спецыяліст назвала тое, што дупло зацягваецца:

– Гэта як ранка ў чалавека. Калі дрэва ў стане спраўляцца з хібамі, гэта сведчыць пра нармальны стан.

### Падобна на тое, што гэта найстарэйшы вяз у Еўропе

На абследаванні 2017 года начальніку Маладзечанскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіславу Чарнову** назвалі папярэдні лічбы – 700 год і сем метраў у акружнасці. Аднак канчатковае навуковае апісанне ён не атрымаў.

> **– Падобна на тое, што гэта найстарэйшы вяз у Еўропе.**

Уявіце, якая гэта гісторыя, чаго там толькі не было – можа, якая-небудзь князёўна замураваная!? – наганяе легендарнасці Чарноў.

Статус помніка прыроды рэспубліканскага значэння абароніць дрэва ад высечкі, за яго догляд будзе адказны землекарыстальнік – Маркаўскі сельвыканкам. Гэты статус надае Міністэрства прыроды, а пакет неабходных дакументаў яму перадае Акадэмія навук, сказаў начальнік інспекцыі.

На момант публікацыі атрымаць дакументальнае пацвярджэнне ўзросту дрэва не атрымалася. На зварот «РГ» у Мінпрыроды ведамства адказала, што дакументы аб наданні вязу статуса помніка прыроды не паступалі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Урыўкі з артыкула Міхася Міхалевіча 2013 года пра вяз у Талуях «Вяз, з вышыні якога бачныя адразу тры гарады – Маладзечна, Вілейка і Смаргонь»

1. Памеры вяза з Верхніх Талуёў уражваюць. Абхват ствала амаль сем метраў (на вышыні 1,3 метра – 697 см). Дыяметр – 222 см. Дзевяць галін адыходзяць ад ствала на ўзроўні ад 2 да 2,5 метра.

2. У ствале ёсць вялікае дупло, якое стала зацягвацца. Гадоў 40 таму ў дупло лёгка мог залезці чалавек.

3. Зверху, у першыя асеннія маразы, калі паветра асабліва чыстае і празрыстае, адкрываюцца далягляды. Адразу, нават без бінокля, бачныя тры гарады – Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, а таксама некалькі мястэчак – Маркава, Лебедзева, Беніца, Залессе, Заскавічы, Турэц-Баяры, Пруды.

4. Бачыў талуйскі вяз, як па рашэнні Гарадзейскага сойма 1567 года за Маркавам, недалёка ад Лебедзева, у Лешне, сабраліся з усіх валасцей 47 тысяч ратнікаў, каб ісці паходам на Маскву падчас Лівонскай вайны.

5. Лыжка з вяза каштавала ў два разы даражэй, чым з бярозы.

6. Уцалеў вяз і ў вайну з Напалеонам. Спачатку пры наступленні ў напрамку Маладзечна праязджаў маршал Луі-Нікаля Даву. А восенню 22 лістапада 1812 года вяз бачыў самога імператара Напалеона, які імкліва ўцякаў на карэце ў Беніцу пад агнём артылерыі генерала Ярмолава з палаючага Маладзечна, дзе разграмілі апошні корпус маршала Віктора.

7. Можа, таму, што бывалі галандцы ў Талуях толькі зрэдку, бо баяліся лесу, яны і не прынеслі з сабой на амуніцыі смяротнай «галандскай хваробы вязаў». Ад гэтага грыбковага захворвання ў Галандыі загінула ў 1919-1940 гадах 70% вязаў, а эпідэмія распаўсюдзілася па Еўропе і была праз марскія парты завезеная ў Амерыку.

Чытайце **артыкул цалкам на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/viazrh**





Пілотная прэзентацыя вуліцы стрыт-фуда

29 верасня
Пачатак у 18:00

Маладзечна, Францыска Скарыны, 12, міні-рынак

# Вулічнае вязанне, гірлянды і музыканты

## У Маладзечне прэзентуюць вуліцу стрыт-фуда

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхароў і гасцей Маладзечна запрашаюць 29 верасня на пілотную прэзентацыю вуліцы стрыт-фуда.**

Прэзентацыю правядуць па Скарыны, 12, на тэрыторыі міні-рынку. Пачатак а 18-й.

Арганізатары – адукацыйны цэнтр «Адкрытая прастора» – абяцаюць выступленне вулічных музыкантаў. Таксама прэзентуюць новы цікавы арт-аб'ект – Yarnbombong, або вулічнае вязанне ці вязанае графіці.

Да справы праз сацыяльныя сеткі і асабістыя знаёмствы далучылі жыхароў горада, прапанаваўшы ім дастаць кручкі для вязання і стварыць яркія рознакаляровыя «бабуліны» квадраты. Тых, хто не ўмее вязаць, таксама запрашалі далучыцца: напрыклад, дапамагчы ніткамі. З гатовых квадратаў зробяць арт-аб'ект – «вопратку» для элементаў гарадской вуліцы.

Вулічныя гірлянды і ліхтары асветляць гэту вуліцу і нададуць ёй сваю атмасферу. Некаторыя ўстановы харчавання на вуліцы стрыт-фуда спецыяльна да мерапрыемства абновяць меню.

Усе, хто жадае, змогуць сфатаграфавацца

Вуліцу плануюць зрабіць пешаходнай, ці атрымаецца гэта, чытайце ў наступных нумарах «Рэгіянальнай газеты».

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Даведка «РГ». Стрыт-фуд («street food») – простая, немудрагелістая ежа, якая нядорага прадаецца на вуліцы. Першапачаткова гэта была ежа для бедных. Так у Старажытным Рыме плебеі, якія не мелі ў сваіх дамах печак, маглі дазволіць сябе кубак таннага супу і пшанічнай кашы з вулічных латкоў. Сёння ж мільёны людзей купляюць вулічную ежу. І яны далёка не бедныя. Проста рытм жыцця горада дыктуе свае правілы. Усе бягуць, спяшаюцца. Таму людзям і падабаецца стрыт-фуд. Гэта хутка, сытна, нядорага і смачна.

### Якія вуліцы перакрыюць у Мядзеле да «Дажынак»

МЯДЗЕЛ

Як паведамляе сайт Мінаблвыканкама, ад 12:00 28 верасня да 23:00 29 верасня ў Мядзеле абмяжуюць рух усіх відаў транспарту.

Гэта датычыцца вуліц Набярэжнай, 1 Мая, Савецкай, 17 Верасня.

Цалкам перакрыюць рух машын па вуліцы Набярэжнай паміж дамамі №2 і №4.

Падчас правядзення святочнага шэсця дэлегацый раёнаў на вуліцы Юбілейнай ад 9:00 да 15:00 29 верасня часткова звузяць шырыню праезнай часткі.

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

### 30 верасня ў Вязынцы адзначаць Багач

МАЛАДЗЕЧНА

Студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы зноў запрашаюць усіх на святкаванне Багача ў Вязынцы.

Сёлета свята адбудзецца 30 верасня, пачатак а 12 гадзіне.

У народным календары Багач прымеркаваны да заканчэння збору ўраджаю і да першага пасля лета запальвання хатняга агменю – васковай свечкі ў лубцы з жытам, якую ставяць на покуць і захоўваюць там на працягу ўсяго года для забеспячэння багацця і шчасця гаспадарам.

Асноўнай дзеяй свята з'яўляецца ссыпанне агульнага Багача, таму мы зноў просім усіх нашых гасцей захапіць з сабой па жменьцы збожжа.

Сёлета на свяце праспяваюць урачыстыя дажынкавыя песні гурты «Мярэжа», «Гарынь», «Дайнава», а танцавальную вечарынку зладзяць музыкі і танцоры клуба традыцыйнага танца «Сіта». Плануюцца таксама цікавыя лекцыі і майстар-класы па выцінанцы, пляценні з бяросты, стварэнні вянкоў з лісця і ўпрыгожванняў з ягад.

Як заўжды, будзе дзейнічаць традыцыйная кухня і кірмаш рамёстваў.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.09 | 27.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1028 | **2.0963** |
| Еўра | 2.4584 | **2.4670** |
| Злоты, 10 | 5.7267 | **5.7538** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1371 | **3.1879** |
| Грыўня, 100 | 7.4819 | **7.4469** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **19.09** | **26.09** |
| Еўра | 2.4500/2.4800 | **2.4500/2.4900** |
| Долар ЗША | 2.0920/2.1200 | **2.0850/2.1200** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 19.09 | 26.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,70** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | **1,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,30 | **1,60** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **1,95** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 0,90 | **1,30** |
| Перац, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,40 | **3,20** |
| Грушы, 1 кг | 0,30 | **0,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Ківі, 1 кг | 3,60 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,90 | **4,20** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | – | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,80 | **0,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Нецвярозы рабочы зваліўся амаль з чатырохметровай вышыні

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 жніўня на тэрыторыі таварыства з дадатковай адказнасцю ў Маладзечне, рамантуючы падстрэшак, з вышыні 3,6 метра зваліўся падсобны рабочы. 38-гадовы мужчына атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Следчыя агледзелі месца здарэння, вывучылі канфіскаваныя нарматыўныя і тэхнічныя дакументы.

Высветлілася, што траўматызму спрыялі парушэнні ў арганізацыі работы па ахове працы, тэхніцы бяспекі, неналежны кантроль за работнікамі з боку службовых асоб прадпрыемства.

Да працы дапусцілі асоб, якія не прайшлі інструктаж, а працы на вышыні праводзіліся без спецыяльных сродкаў абароны, страхоўкі, ахоўных паясоў.

Пры гэтым пацярпелы ў момант траўмавання знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

Па выніках праверкі ў дачыненні да дырэктара таварыства, адказнага за забеспячэнне правілаў аховы працы, распачалі крымінальную справу па факце парушэння правілаў бяспекі будаўнічых работ, якое пацягнула па неасцярожнасці цяжкую траўму.

**Паводле сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## ДАІ правядзе акцыю «Бяспечны абгон»

**МАДАДЗЕЧНА**

Аналіз дарожнай абстаноўкі сведчыць, што на тэрыторыі Міншчыны па-ранейшаму часцяя лабавыя сутыкненні.

Яны здараюцца з-за парушэння правілаў абгону і выезду на паласу сустрэчнага руху. Названыя здарэнні цягнуць за сабой значныя наступствы.

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна з пачатку года зарэгістравалі 42 дарожна-транспартныя здарэнні, у якіх шэсць чалавек загінула, 44 атрымалі цялесныя пашкоджанні рознай ступені.

Пяць ДТЗ адбылося па віне нецвярозых кіроўцаў. З-за выезду на паласу сустрэчнага руху здзейснілі шэсць дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх два чалавекі загінулі, чатыры атрымалі траўмы.

З мэтай прафілактыкі ДТЗ, якія здараюцца праз парушэнні правілаў абгону і выезду на паласу сустрэчнага руху, Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна ад 28 да 30 верасня правядзе акцыю «Бяспечны абгон».

Міліцыянеры раскажуць аб прафілактыцы дарожна-транспартнага траўматызму ў працоўных калектывах арганізацый і прадпрыемстваў.

**Сяргей БАРТОШ, аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

## У аварыі на Вілейшчыне загінуў 39-гадовы мінчанін

**ВІЛЕЙКА**

Як распавяла «Рэгіянальнай газеце» **Таццяна Беланог**, прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці, здарэнне адбылося 22 верасня каля чатырох гадзін вечара.

На аўтадарозе Ушачы-Вілейка каля вёскі Зімодры Куранецкага сельсавета сутыкнуліся аўтамабілі «Нісан» і «Шкода».

Кіроўца «Нісана» пайшоў на абгон і на сустрэчнай паласе «лоб у лоб» стукнуўся са «Шкодай».

У выніку пасажыр «Нісана», што сядзеў спераду, загінуў на месцы. Загінулы — жыхар Мінска 1979 года нараджэння.

Другому пасажыру «Нісана» і кіроўцы «Шкоды» спатрэбілася дапамога медыкаў.

Следча-аператыўная брыгада агледзела месца здарэння, прызначылі шэраг экспертыз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне гаспадыня паліла смецце, а спаліла хлеў з саломай

**ВІЛЕЙКА**

19 верасня здарыўся пажар у вёсцы Балашы, што ў Крывасельскім сельсавеце.

Пра тое, што ў яе двара гарыць хлеў, гаспадыня паведаміла выратавальнікам каля гадзіны дня.

Калі тыя прыехалі, хлеў, а таксама салома ў ім і каля яго гарэлі адкрытым полымем.

У выніку пажару пабудова цалкам згарэла. Агонь пашкодзіў салому.

– Пажар адбыўся з-за таго, што гаспадыня пабач з пабудовай паліла смецце. Яна сачыла за вогнішчам, але ў нейкі момант пайшла за вадой, каб заліць рэшткі, што яшчэ тлелі. Тады з-за ветру агонь зноў разгарэўся і перакінуўся на будынак, – распавёў «РГ» інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Аляксандр Казакевіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Прыгавор суда пакуль не ўступіў у законную сілу.

# Вынеслі прысуд былым галоўнаму выратавальніку і кіраўніку мясцовых электрасетак

**МАЛАДЗЕЧНА**

**21 верасня суд вынес прыгавор экс-начальніку Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях, а таксама былому кіраўніку Маладзечанскіх электрасетак.**

Паводле абвінавачання, абодва дамовіліся ўтаіць факт пажару ў навучальным цэнтры энергетыкаў, паведамляе суд. Справу ў дачыненні да двух начальнікаў разглядалі ў судзе суседняга, Валожынскага раёна. Фігуранты – экс-кіраўнік Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях, а таксама былы дырэктар філіяла «Маладзечанскія электрасеткі» РУП «Мінскэнерга».

Па матэрыялах справы, у жніўні 2017 года начальнік ад МНС выязджаў на месца ўзгарання лазні, якая належыць энергетыкам і знаходзіцца на тэрыторыі вучэбнага цэнтра. Ён паддаўся ўгаворам з боку дырэктара электрасетак і распарадзіўся ўнесці недакладныя дадзеныя, каб схаваць факт здарэння. Хоць такія звесткі падлягаюць уліку.

У выніку суд прызнаў выратавальніка вінаватым у перавышэнні службовых паўнамоцтваў «з асабістай зацікаўленасці» і прысудзіў да трох гадоў пазбаўлення волі. Яму нельга на працягу пяці гадоў займаць кіруючыя пасады.

Энергетыка асудзілі за падбухторванне да перавышэння паўнамоцтваў, а таксама незаконнае захоўванне боепрыпасаў. Прысуд – тры гады пазбаўлення волі і пяць гадоў забароны займаць пэўныя пасады.

Пры гэтым фігуранты не адпраўяцца за краты: суд пастанавіў адтэрмінаваць выкананне асноўнага пакарання на два гады. Мужчыны цяпер не могуць свабодна змяняць месца жыхарства і выязджаць па асабістых справах за межы раёна (горада) больш чым на месяц.

Яны абавязаныя перыядычна з'яўляцца па выкліку, а ў вольны ад працы час адпрацаваць яшчэ 60 гадзін на грамадскіх работах. Прысуд пакуль не ўступіў у сілу і можа быць абскарджаны.

**Паводле tut.by.**

## Легкавік і матацыкл не размінуліся на дарозе

**МАЛАДЗЕЧНА**

21 верасня ў 21:10 жанчына 1965 года нараджэння на Hyundai Accent выязджала з АЗС на Крынічную. Адтуль у напрамку Дудко ехаў матацыкліст 1992 года нараджэння на Yamaha XZF600.

Пры павароце налева кіроўца не саступіла дарогу, адбылася аварыя. Матацыкліста шпіталізавалі ў траўматалагічнае аддзяленне ЦРБ. Ён быў у шлеме і абмундзіраванні. Пра гэта распавёў дзяржаўтаінспектар АДАІ Маладзечанскага РАУС **Сяргей Бартош.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Сям'я ўратавалася дзякуючы апавяшчальніку

**СМАРГОНЬ**

Сям'я з шасцю дзецьмі ўратавалася з палаючага дома дзякуючы пажарнаму апавяшчальніку, паведамілі ў Гродзенскім абласным упраўленні МНС.

Вечарам 24 верасня выратавальнікам паступіла паведамленне аб пажары ў жылым доме ў вёсцы Кушляны. Высветлілася, што тут жыве сям'я з шасцю дзецьмі, старэйшаму з якіх 12 гадоў. Гаспадары бліжэй да вечара распалілі кацёл. Каля васьмі гадзін паліць перасталі і адправіліся спаць. Пабудзіў іх гук пажарнага апавяшчальніка.

На барацьбу з агнём пайшло каля паўгадзіны. У выніку пажару пашкоджаныя дах, перакрыцце і маёмасць у доме. Пацярпелых няма. Як мяркуецца, узгаранне адбылося з-за расколіны ў коміне.

У гэтай сувязі спецыялісты раяць утрымліваць пячное ацяпленне, згодна з нормамі і правіламі пажарнай бяспекі. Печ павінна мець самастойны падмурак. У ёй не павінна быць расколін і шчылін, а комін павінны мець добрую цягу. Рэкамендуецца пабяліць яго вапнавым растворам – на белым фоне лепш бачныя расколіны. У перыяд ацяпляльнага сезона неабходна рэгулярна чысціць яго ад сажы.

**Паводле БелТА.**

# Запрашаем паўдзельнічаць у акцыі «Не губляй ніводнага дня»

**Сёння мы запускаем акцыю «Не губляй ніводнага дня».**

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2018 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі радаснымі момантамі года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна дасылаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Акрамя таго, з дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары «РГ» на 2019 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, таксама атрымае падарунак.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма «Рэгіянальнай газеты», рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд. У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаныя ў нашых публікацыях.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад сённяшняга дня да 31 кастрычніка. 1 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 19 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Не губляй ніводнага дня».

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518
Тэл./факс: (0176) 53-78-04, тэл. 53-78-05
reklama@rh.by www.rh.by
2018

## Запрашаем далучыцца да акцыі «Супергаспадар»

**Вы сабралі самы вялікі ўраджай? Або пабудавалі ўнукам арэлі? Вышылі абрус або ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі?**

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by лепшыя фотаздымкі, звязаныя з гаспадаркай.

**Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна дасылаць адно фота ад аднаго чалавека.**

Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

Таму, хто зойме другое і трэцяе месцы, мы падрыхтавалі падарункі.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы ад 28 верасня да 19 лістапада. Пасля мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне, якое будзе доўжыцца ад 22 лістапада да 13 снежня. А 14 снежня мы абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Супергаспадар».

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Фота Дарыі ПАЛЬЧЫНСКАЙ.

**Апошнія пчолы на расходніку (очитке). Мястэчка Краснае, Маладзечанскі раён. Дасылайце свае фота з гаспадаркі!**

**Аддзел інфармацыі.**

## У Вілейцы – новы намеснік старшыні райвыканкама

**ВІЛЕЙКА**

У Вілейцы прызначылі новага намесніка старшыні райвыканкама па эканоміцы.

Ім стаў **Віктар Сніткo**.

У кампетэнцыі новага намесніка – пытанні эканомікі, падатковай і грашова-крэдытнай палітыкі, інвестыцый, прадпрымальніцтва, гандаль, іншае.

Віктар Мікалаевіч выконваў абавязкі старшыні праўлення Вілейскага райспажыўтаварыства.

Раней пасаду намесніка старшыні райвыканкама па эканоміцы займаў **Генадзь Касцевіч**. Генадзь Міраслававіч памёр сёлета 27 ліпеня ва ўзросце 55 гадоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Вілейцы ўсталявалі новыя велапаркоўкі

**ВІЛЕЙКА**

Велапаркоўкі паставілі каля сацыяльна значных аб'ектаў у горадзе.

Адна з'явілася на рынку, другая – ля пошты. Трэцяя, крытая, месціцца каля паліклінікі.

Велапаркоўкі з'явіліся ў горадзе ў рамках праекта «Падтрымка ініцыятывы «Пагадненне мэраў» у Беларусі».

Грошы для справы даў Еўрасаюз.

Такім чынам вілейскія актывісты ўвасабляюць у жыццё ініцыятыву «Рух як спосаб скарачэння выкідаў парніковых газаў». Выканальнік – вілейскае грамадскае аб'яднанне «ЗОВіК». Каардынатар – віляйчанін **Яўген Івашкевіч**.

Бюджэт мясцовай ініцыятывы складае 9 991 еўра.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Ашмянах мадэрнізуюць дзіцячы садок №3

**АШМЯНЫ**

Яслі-сад №3 пабудаваныя амаль паўстагоддзя таму, і яны маюць патрэбу ў «новым дыханні». Тут уцепляць сцены, дах, заменяць вокны.

Установяць сонечны калектар з цеплавой помпай, які паслужыць для патрэб гарачага водазабеспячэння і частковa ацяплення. Прадугледжаны мерапрыемствы па рэгуляванні цеплавой энергіі.

Установяць вентыляцыю, сонечныя панэлі для забеспячэння вонкавага і ўнутранага асвятлення, сістэмы сучаснага асвятлення, абсталяваныя высокаэфектыўнымі крыніцамі святла. Састарэлае энергаёмістае абсталяванне кухні заменяць на сучаснае. Заменяць старую электраправодку.

Для выхаванцаў дзіцячага садка створаць максімальна камфортныя ўмовы. Энергаспажыванне і выкіды вуглякіслага газу знізяцца не менш, чым на 50 працэнтаў.

– Агульны бюджэт праекта – 696 614 еўра, з якіх 554 993 еўра – сродкі Еўрапейскага саюза, – адзначыў кіраўнік праекта **Сяргей Нікіцін**. – Не менш за 20 працэнтаў – фінансаванне Ашмянскага райвыканкама.

Каманды падтрымкі праграмы «Пагадненне мэраў – дэманстрацыйныя праекты» ўручылі старшыні Ашмянскага райвыканкама **Міраславу Сарасеку** сертыфікат аб перамозе ў конкурсе грантаў. Эксперты і каардынатары праекта прэзентавалі праграму, пазнаёмілі з магчымасцямі ўдзелу ў іншых праектах. Кіраўніцтва раёна зацікавіла тэма вулічнага асвятлення.

Абмяркоўваць тэхнічныя пытанні рэалізацыі праекта працягнулі ў яслях-садзе №3. Пачаць работы плануюць наступным летам.

**Паводле OSH.BY.**

# Аб некаторых пытаннях самавольнага (бездагаворнага), безуліковага спажывання электрычнай энергіі

**Філіялам «Маладзечанскія электрычныя сеткі» на працягу больш за 10 апошніх гадоў ажыццяўляецца рэгулярная праца па кантролі за выкананнем Правілаў электразабеспячэння і дагаворных абавязацельстваў спажыўцамі электраэнергіі. Рэйды праводзяцца з усімі групамі спажыўцоў –ад найбольш энергаёмістых прамысловых спажыўцоў, усталяванай магутнасцю 750 кВА і вышэй, да менш энергаёмістай, але самай шматлікай бытавой групай спажыўцоў.**

У выпадку выяўлення падчас правядзення рэйдавай работы ў спажыўцоў электраэнергіі парушэнняў дагаворных абавязацельстваў і (або) Правілаў электразабеспячэння ўпаўнаважанай асобай складаецца акт аб самавольным (бездагаворным), безуліковым спажыванні электрычнай энергіі.

Пад парушэннем дагаворных абавязацельстваў і Правілаў электразабеспячэння часцей за ўсё разумеюць самавольнае падключэнне электрапрыёмнікаў да разліковага ўліку электраэнергіі з дапамогай выканання адгалінавання ці ж накіду на паветраную лінію 0,38 кВ. Аднак спажыўцы электраэнергіі могуць нанесці шкоду арганізацыі, якая забяспечвае энергіяй, і без фізічнага ўздзеяння на прыбор уліку або самавольнага выканання адгалінаванні ад ўводнага кабеля.

У ходзе эксплуатацыі або пасля ўздзеяння электраэнергіі павышанага напружання дакладнасць працы прыбора ўліку можа мяняцца ў параўнанні з заяўленым вытворцам класам дакладнасці. Прычым змены звязаныя не толькі непасрэдна з лічыльнікам электрычнай энергіі, а таксама з кантактнымі злучэннямі ў ланцугу ўліку.

Часта пасля візуальнага агляду сродкаў уліку электраэнергіі якіх-небудзь парушэнняў у працы ці фізічнага ўздзеяння на прыборы ўліку не назіраецца і меркаваць аб правільнасці або няправільнасці работы не ўяўляецца магчымым. Для выяўлення недаўліку адпушчанай спажыўцу электраэнергіі выкарыстоўваецца прыбор, які падключаецца да разліковага ўліку, і вызначае адносную хібнасць (погрешность) дадзенай сістэмы ўліку (лічыльнік + трансфарматары току (пры наяўнасці). Прычым прыбор дазваляе вызначыць адносную хібнасць як сістэмы з электронным, так і з індукцыйным лічыльнікам электраэнергіі.

У выпадку выяўлення адноснай хібнасці ўліку электраэнергіі больш за дапушчальны ўзровень складаецца акт аб самавольным (бездагаворным), безуліковым спажыванні электрычнай энергіі. Па выніку разліку па складзеным акце спажыўцу налічваецца недаўлічаная прыборам уліку электраэнергія і выстаўляецца сума на пакрыццё шкоды энергазабеспячэнскай арганізацыі.

Сёння ў большасці юрыдычных асоб, якія спажываюць электраэнергію, устаноўленыя электронныя прыборы ўліку, якія дазваляюць без дадатковых прыстасаванняў і вымяральных прыбораў вызначыць асноўныя параметры сеткі (ток, напружанне, каэфіцыент магутнасці і інш.), што дае магчымасць спажыўцу самастойна кантраляваць дакладнасць працы прыбора ўліку электраэнергіі, а таксама якасць электраэнергіі.

За 7 месяцаў 2018 года работнікамі філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» праведзена 270 рэйдаў па выяўленні фактаў парушэнняў Правілаў электразабеспячэння, складзена 98 актаў, спажыўцам выстаўлена дадаткова больш за 460 тысяч кВт•г.

Для выключэння падобных выпадкаў звяртаем увагу на неабходнасць спажыўцоў няўхільна выконваць дзеючае заканадаўства ў галіне забеспячэння электрычнай энергіі і ўзятых абавязацельстваў па заключаных дагаворах электразабеспячэння!

УНП 100071593

## Валожынскі лясгас пасля праверкі вярнуў 154 тысячы рублёў у бюджэт

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў маніторынг Валожынскага лясгаса. Праверка выявіла, што лясгас выкарыстаў 154 тысячы рублёў ад лесагаспадарчай дзейнасці з парушэннем бюджэтнага заканадаўства, 13 тысяч рублёў незаконна атрымаў з рэспубліканскага бюджэту.

У дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці ўстанова паказала недакладныя звесткі аб уводзе ў эксплуатацыю асноўных сродкаў у 2017 годзе.

Знайшлі парушэнні заканадаўства аб закупках. Летась Валожынскі лясгас без правядзення працэдуры закупак набыў 10 адзінак асноўных сродкаў на 63 472 рублі.

Заўважылі недахопы і непасрэдна ў лесе. У Румскім і Вішнеўскім лясніцтвах на лесасеках ад 2014 года былі рэшткі драўніны – 2,5 кубічнага метра. Іх своечасова не вывезлі пасля заканчэння высечкі. 3,3 кубічнага метра не ўлічылі па дадзеных бухгалтарскага ўліку.

Па выніках маніторынгу вярнулі ў бюджэт 154 тысячы рублёў, выкарыстаных з парушэннем заканадаўства.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## 29 верасня – абласныя «Дажынкі»

МЯДЗЕЛ

Аграрнае свята пройдзе ў суботу, 29 верасня.

**ПРАГРАМА**

**Вуліца Набярэжная, Школьная, 17 Верасня, плошча Шаранговіча, плошча Леніна**

Ад 9:00 працуюць выстава-продаж сельскагаспадарчай і прамысловай прадукцыі, перапрацоўчай прамысловасці, гандлёвыя рады, «Горад майстроў», выстава «З гісторыі «Дажынак» Міншчыны».

**Сцэнічная пляцоўка «Вітаем герояў жніва» (плошча Шаранговіча)**

10:00-19:00 – выступленне аматарскіх калектываў мастацкай творчасці і выканаўцаў Мінскай вобласці.

**Сцэнічная пляцоўка «Маладзёжная» (вул. Набярэжная)**

10:00-19:00 – выступленне дзіцячых і моладзевых творчых калектываў і выканаўцаў.

11:30-12:00 – урачыстая цырымонія адкрыцця аддзела ЗАГС Мядзельскага райвыканкама (вул.Набярэжная).

13:00-13:40 – святочнае шэсце «Шлях да хлеба».

**Галоўная сцэнічная пляцоўка (Амфітэатр)**

14:00-16:10 – урачыстая цырымонія абласнога фестывалю-кірмашу «Дажынкі-2018»: узнагароджванне перадавікоў, святочны канцэрт з удзелам аматарскіх калектываў мастацкай творчасці Мінскай вобласці і прафесійных выканаўцаў.

19:30-21:00 – канцэрт артыстаў моладзевага тэатра эстрады «Все хорошо, а будет ещё лучше».

21:00 – святочны феерверк.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Жыхароў і гасцей Ашмянаў і раёна запрашаюць на «Восеньскі кірмаш»

АШМЯНЫ

Сельскагаспадарчую выставу-кірмаш правядуць 21 кастрычніка ў Ашмянах.

«Восеньскі кірмаш» зладзяць на Першамайскай і плошчы 17 Верасня, што на тэрыторыі гарадскога сквера. Пра гэта паведамляе сайт Ашмянскага райвыканкама.

Прапануюць прадукцыю сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, фермерскіх гаспадарак, дачнікаў, садоўнікаў, майстроў народных промыслаў раёна і вобласці.

Па пытаннях тэлефанаваць у аддзел эканомікі Ашмянскага раённага выканаўчага камітэта – 43299.

**Паводле OSHMIANY.GOV.BY.**



● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ


Фота helpefia.ru.

Тыдні Германіі – час навучыцца гатаваць нямецкія стравы.

# Баварскія стравы і нямецкае кіно

## Што прапануюць маладзечанцам арганізатары тыдняў Германіі ў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 23 верасня ў Беларусі пачаліся тыдні Германіі. Некалькі мерапрыемстваў запланаваныя ў Маладзечне.**

Больш за 15 гадоў кожную восень пад патранажам Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі праводзяцца тыдні Германіі. Сёлета яны працягнуцца да 18 лістапада.

Пасольства запрашае ўсіх, хто хацеў бы пазнаёміцца з нямецкай культурай, мовай і грамадствам, наведаць шматлікія мерапрыемствы. Правядуць шматлікія паказы сучасных кароткаметражных стужак, мастацкіх фільмаў на нямецкай мове з субтытрамі на рускай, дакументальнага і музычнага кіно.

**Будуць таксама канцэрты ад класікі да стыляў рок і поп, а таксама джаз. Зладзяць чытанні, выставы, майстар-класы і лекцыі на спецыяльныя тэмы.**

Першыя мерапрыемствы тыдня Германіі ў Маладзечне ўжо правялі. 26 верасня супрацоўнікі Цэнтральнай раённай бібліятэкі пазнаёмілі чытачоў з праграмай тыдня ў горадзе. Маладзечанцы даведаліся, як яны могуць паўдзельнічаць у мерапрыемствах і пазнаёміліся з працай медыя-аўтобуса Інстытута імя Гётэ ў Мінску DeutschExpress.

У гэты ж дзень у кінатэатры «Радзіма» паказалі фільм «Цім Талер, ці Прададзены смех». Кіно было на нямецкай мове, але з рускімі субтытрамі.

Кінапаказы ў «Радзіме» працягнуцца ў пятніцу, 28 верасня, у 17:00. Тут прапануюць нямецкамоўную драму «Усходні вецер». А 23 кастрычніка пакажуць трагікамедыю «Я і Камінскі».

29 верасня гараджан, якім падабаецца фатаграфаваць, запросяць на фотамарафон. Ён будзе цэлы дзень: ад 10:00 да 21:00. Удзельнікі павінны быць старэйшыя за 14 гадоў. Фотааматары на працягу дня будуць здымаць на зададзеныя тэмы.

5 кастрычніка падчас кулінарнага майстар-класа Зыгрыд Мурк распавядзе пра асаблівасці баварскай кухні і прыгатуе разам з удзельнікамі некалькі вядомых нацыянальных страў.

**Круглы стол на нямецкай мове «Моладзь Германіі і Беларусі» з удзелам валанцёраў з Германіі правядуць у бібліятэцы 18 кастрычніка ў 15:00.**

Урачыстае закрыццё тыдня зладзяць 27 кастрычніка ў 16:30. На закрыцці падвядуць вынікі фотамарафона і ўзнагародзяць лепшых удзельнікаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Пашырылі пералік сельскіх населеных пунктаў для прымянення падатковых ільгот

**Рашэннем Мінскага абласнога Савета дэпутатаў N47 ад 9 жніўня (уступіла ў сілу ад 19 жніўня) унеслі змены ў рашэнне N235 ад 23 лістапада 2017 года «Аб мерах па рэалізацыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 22 верасня 2017 года, N345».**

У новай рэдакцыі публікуецца Пералік населеных пунктаў і тэрыторый за населенымі пунктамі, якія адносяцца да тэрыторыі сельскай мясцовасці, на якія распаўсюджваецца дзеянне норм Указа N345 «Аб развіцці гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання» ў частцы прымянення льгот па падатках.

У абноўлены Пералік уключаны сельскія населеныя пункты ўсіх 22 раёнаў Мінскай вобласці.

Ільготамі могуць скарыстацца арганізацыі і ІП, якія ажыццяўляюць на тэрыторыі, уключанай у Пералік населеных пунктаў і тэрыторый за населенымі пунктамі, і адносяцца да тэрыторыі сельскай мясцовасці:

- грамадскае харчаванне ў аб'ектах грамадскага харчавання;
- бытавыя паслугі;
- гандаль у гандлёвых аб'ектах, на гандлёвых месцах на рынках, на кірмашах.

Гаворка ідзе аб ільготах па ПДВ, падатку на прыбытак, падаходным падатку для ІП, падатку на нерухомасць, зямельным падатку і арэнднай плаце за зямельныя ўчасткі, адзіным падатку з ІП. Арганізацыі і ІП могуць прымяніць льготы пры выкананні пэўных умоў у перыяд ад 1 студзеня да 31 снежня 2022 года.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне ў кабінеце 105 або па тэлефоне (80176) 77-74-54.

**Паводле інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Асілкі падымалі гіры і дзяўчат, музыкі «запальвалі» моладзь

## Як прайшоў моладзевы фестываль у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**– Хто прыехаў на ровары, на самакаце або роліках, падыдзіце, калі ласка, сюды! – гучаў у мінулую суботу над вілейскай плошчай голас Вольгі Шляпо, адной з арганізатараў моладзевага фестывалю ў Вілейцы.**



«Сфатаграфуйце мяне з бодзібілдарам і надрукуйце ў газеце», – прасіў віляйчанін Алег Яцкевіч. На фота ён з Ягорам Роўдам.




Гледачы хаваліся ад непагадзі.

На прыступках Дома культуры кожны раварыст атрымліваў фрукт у падарунак і далучаўся да экалагічнага флэшмобу, удзельнікі якога рушылі ад плошчы да скейт-парку. Самым сталым удзельнікам шэсця стаў 82-гадовы пенсіянер-раварыст **Міхаіл Уласік**. Самым малодым – дзесяцігадовы вучань **Мікіта Пагуда**, што прыехаў паўдзельнічаць на самакаце.

22 верасня фестывалем «Выбірай і рухайся» ў Вілейцы завяршыўся Сусветны тыдзень мабільнасці, які горад падтрымлівае ўжо другі раз.

У скейт-парку ўдзельнікаў чакала насычаная праграма: танцоры і спевакі, бодзібілдары і варкаўтары, тэатр моды і дранік-шоу, планета навуковых цудаў і жывая бібліятэка.

### Дзмітры Гарланаў: у Вілейцы раблю тое, чаго мне не хапала ў Мінску

– Хацелася арганізаваць таленавітую моладзь, зрабіць у Вілейцы такое свята, дзе б кожны быў не толькі пасіўным гледачом, але і ўдзельнікам, – расказаў «Рэгіянальнай газеце» галоўны архітэктар Вілейкі адзін з арганізатараў фестывалю **Дзмітры Гарланаў**. – Гэта трэнд, калі на адной сцэне дэманструюць некалькі відаў мастацтва, калі мы бачым супрацьлеглыя яго накірункі. Якраз такіх мерапрыемстваў мне не хапала падчас майго студэнцтва ў Мінску.

### Ды гэта ж наша Даша!

Са сталіцы прыехалі музычныя і танцавальныя калектывы. Сярод іх – Школа сучаснай харэаграфіі JAM CREW.

На пытанне, як вы знайшлі такіх танцораў, Вольга Шляпо адказала проста: «Дык гэта ж наша Даша!»

Аказалася, школай харэаграфіі JAM CREW кіруе **Дар'я Валынец**, якая нарадзілася ў Вілейцы, а цяпер жыве ў Мінску.

– Я вучылася ў гімназіі №2. Займалася харэаграфіяй у **Ірыны Новік**, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» Даша. – Пасля гімназіі скончыла каледж па спецыяльнасці «харэаграфія». Школа танцаў JAM CREW ужо год працуе пры будаўнічым каледжы ў Мінску. Так што перад вамі танцавалі будучыя будаўнікі. Рэпетыцыі па чатыры гадзіны на дзень.

Па словах Дашы, не ўсе навучэнцы адразу пачынаюць займацца танцамі. Асабліва хлопцаў бывае цяжка далучыць. Але, наведаўшы некалькі рэпетыцый, захапляюцца і яны.

На фестывалі Даша паспяхова паўдзельнічала ў практыкаванні «планка», што прапанавалі дзяўчатам бодзібілдары. Пратрымалася каля дзесяці хвілін. Пасля прызналася, што крыху адчувала напружанне ў руках і прэсе.

### Мадэлі, повары і асілкі працавалі пад дажджом

Бодзібілдары ўражвалі практыкаваннямі з гірай і канатамі, Вілейскі дзяржаўны каледж частаваў дранікамі і блінамі, радаваў вока мадэлямі з тэатра мод. Планета навуковых цудаў Цэнтра дадатковай адукацыі падрыхтавала інфармацыйны стэнд пра ровары і паказала, як ствараюцца мультфільмы.

Бліжэй да вечара моладзь «запалілі» сучасныя гурты з Мінска і фаер-шоу.

Амаль усе актыўнасці фэсту адбываліся пад дажджом. Але падобна, што захопленая яркай дзеяй моладзь не вельмі і заўважала неспрыяльнае надвор'е.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Дзякуй, Вілейка! Прыедзем яшчэ

## Сталічныя гурты, што выступалі на фестывалі, падзяліліся ўражаннямі з «РГ»

ВІЛЕЙКА

**На думку арганізатараў і гледачоў, адным з самых яркіх момантаў вілейскага фестывалю стаў вячэрні моладзевы канцэрт.**

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» пагутарыла з некаторымі музыкамі гуртоў, што прыязджалі 22 верасня ў Вілейку і спявалі ў скейт-парку, запальваючы вілейскую моладзь.

### Чаму вілейскія хлопцы так падабаюцца дзяўчатам?

**Ягор Гаўрылаў**, удзельнік гурта BELAROOTS, прызнаўся, што быў вельмі ўсцешаны магчымасцю патрапіць у Вілейку ў якасці выступоўца.

– Менавіта праз рэп я звязаны з гэтым горадам, – прыгадаў Ягор. – Некалі існаваў такі гурт PANaNieba – два хлопцы з Вілейкі – **Хвядот (SP Kava)** і **S'viedak**. Мы з імі напрыканцы 2000-х пачатку 2010-х шмат рабілі разам. S'viedak жыў у Мінску, мы часта збіраліся ў яго на кватэры. Там і вырашылі зрабіць супольны альбом, запісалі шэсць трэкаў, але не выдалі. Тым не менш, з гэтымі трэкамі я цяпер выступаю сольна, як частка BELAROOTS. Чытаю са сцэны рэчы, напісаныя вілейскімі хлопцамі. У горадзе і сёння ёсць людзі, якія памятаюць SP Kava і S'viedak.

**У Вілейцы Ягор быў не першы раз. Тут шмат знаёмых. Ад віляйчан – найлепшыя ўражанні, адзначыў хлопец. Яны вясёлыя людзі і добрыя сябры.**

– Для мяне і сёння таямніца, чаму вілейскія хлопцы так падабаюцца дзяўчатам. Усе мае вілейскія сябры маюць вялікі поспех у дзяўчат, – падзяліўся музыкант.

BELAROOTS выступіць на фэсце запрасіў адзін з арганізатараў свята ў Вілейцы **Дзмітры Гарланаў**. Было бачна, што ён сваю справу любіць і хоча падарыць Вілейцы свята, заўважыў Ягор.

### BY CRY: Нават надвор'е ў Вілейцы спрыяла нам

**Сяргей Стэц**, гітарыст гурта BY CRY, расказаў, што ў Вілейцы апошні раз іх каманда была на фестывалі «Гонару продкаў».

– Вельмі ўсцешыла тады рэакцыя людзей, якія не проста стаялі, а ўсміхаліся, радасна танцавалі і вадзілі карагоды, – прыгадаў Сяргей паездку двухгадовай даўніны. – Для нас самы галоўны паказчык – гэта калі людзі адгукаюцца на танцы!

**Моладзевы фестываль 22 верасня, на думку музыкаў з BY CRY, прайшоў на ўра. Прыемна было бачыць такую значную колькасць зусім маладых і ветлівых людзей, кажа Сяргей.**

Таксама ўдзельнікі гурта адзначылі, што арганізатары самі іх знайшлі і запрасілі на фестываль. На ўсе нашы пытанні па арганізацыі – гук, размяшчэнне і іншыя – мы атрымлівалі аператыўныя адказы. Было відаць, што людзі гарацы жаданнем зрабіць усё на лепшым узроўні, прыгадаў гітарыст.

Адразу перад выступленнем гурта пайшоў дождж, але ўжо на першай песні спыніўся. Нават надвор'е Вілейкі было добразычлівае да нас, жартуе музыкант.

**– Зноў былі танцы і карагоды, з радасцю ў вачах людзі падыходзілі і дзякавалі нам пасля канцэрта. Значыць, усё атрымалася, наша місія выкананая і BY CRY з задавальненнем прыедзе яшчэ. Дзякуй, Вілейка!**

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Больш фота — на rh.by! Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: bit.ly/rhteatr

# «Рог у мяне адвальваўся і падаў на сцэну»

## Мінскі абласны драматычны тэатр адчыніў дзверы для гледачоў у новым сезоне

МАЛАДЗЕЧНА

**Тэатральны сезон адкрылі 19 верасня камедыяй пра селяніна Дзёмку, яго жонку Маланку, арандатара Давіда і Чорта, які страціў сэнс існавання. «Камедыя» ідзе на сцэне Мінскага абласнога драмтэатра ўжо 25 гадоў.**



Акцёры развітваюцца з гледачамі. Злева направа: Чорт (Алег Чэчанеў), Маланка (Эмілія Ларыёнава), селянін Дзёмка (Аляксандр Пашкевіч), арандатар Давід (Сяргей Карзей).

П'еса Уладзіміра Рудава паводле твораў Каятана Марашэўскага і Францішка Аляхновіча стала «візітнай карткай» маладзечанскага тэатра.

### Як змяніўся калектыў тэатра

Перад спектаклем гледачы ўбачыліся з абноўленым калектывам. Летась у тэатр прыйшоў новы мастацкі кіраўнік – **Валеры Анісенка**.

– Мару стварыць аўтарскі тэатр. І мяне чакаў маленькі тэатр у Маладзечне, шчырыя, таленавітыя, закінутыя, нікому не патрэбныя людзі, – кажа Валеры Анісенка са сцэны. Раздаецца гучны смех акцёраў і гледачоў. – Што такое аўтарскі тэатр? Гэта як сям'я. Прыходзіць чалавек і апладнуе калег сваім бачаннем прафесіі і перспектыў тэатра.

Даведка «РГ». Валеры Анісенка – заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У 1980-я будаваў і адкрываў тэатр кінаакцёра ў Мінску. На Беларускім радыё паставіў каля 100 спектакляў паводле Адамовіча, Быкава, Гілевіча, Караткевіча, Сачанкі, Чыгрынава, Шамякіна. Стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР за дасягненні ў дзейнасці радыётэатра – радыёспектаклі паводле твораў Быкава «У тумане» і «Кар'ер». На яго рахунку пастаноўкі «Чайка», «Пахавайце мяне за плінтусам», «Каласы пад сярпом тваім». Яго «Рычард» і «Макбет» атрымалі вышэйшую адзнаку на Эдынбургскім фестывалі ў 1995-1996 гадах.

Працу мастацкага кіраўніка за гэты час калегі дакладна ацанілі.

– Стаўлюся з захапленнем да яго зараслівасці і энергетыкі. Цяпер ён рэпеціруе прэм'ерны спектакль, ці не штодзень намотвае на машыне пад 200 кіламетраў ад месца жыхарства – пад Мінскам – у тэатр і назад. І гэта ў 74 гады. Толькі з захапленнем, – дзяліцца **Алег Чэчанеў**.

Трупу акцёраў сёлета папоўніў **Аляксандр Корнеў**. Артысту 26 гадоў, мінчанін. Ён доўга абіраў тэатр, у якім паспрабуе сябе, набярэцца досведу.

Адвучыўся на рэжысёра, адразу па спецыяльнасці працаваць не стаў – так скláліся абставіны. Шмат дзе іграў у студэнцтве. Па словах артыста, яму спадабаліся калектыў, публіка.

– Бачыў, як рэагуюць людзі, як з цікавасцю глядзяць спектаклі. У выніку зразумеў, без гэтай прафесіі не бачу сябе ў жыцці. Нягледзячы на ўсе нюансы, звязаныя з ёй, напрыклад, нізкія заробкі. Тэатр ёсць тэатр, – прызнае Корнеў. – Маладзечанскі падаўся найбольш цікавым, «дамашнім». Ведаеце, для акцёра вельмі важна прыйсці ў тэатр і адчуць сябе, як дома.



Маланка ў ролі жонкі селяніна Дзёмкі.

### «Самае складанае – вылепіць рожкі і нос»

На пачатку спектакля Аляксандр Корнеў, **Настасся Макарэвіч**, **Павел Святоха** і **Аляксей Карпец** падзяліліся з гледачамі цікавосткамі пра «Камедыю».

Прэм'ера спектакля адбылася ў 1993 годзе. «Дзе толькі не ігралі «Камедыю» за гэтыя 25 гадоў! У Нью-Ёрку... пакуль не ігралі. У Парыжы і Варшаве... пакуль не даехалі. У беларускіх дыяспарах бліжэйшага і далёкага замежжа – збіраемся. Затое былі ў Санкт-Пецярбургу. «Камедыя» адкрывала самы першы фестываль тэатральнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца»... За гэты час паказалі 270 спектакляў. Столькі разоў Дзёмка замахваўся сякерай на Давіда. З іх 135 разоў сякера біла вастрыём дакладна ў сцэну, астатнія – без патрэбнага спецэфекта. Рэквізітары прыгатавалі 135 літраў бутафорскага самагону, з іх Дзёмка выпіў 27».

У галоўных ролях – вядомыя маладзечанцам акцёры: **Аляксандр Пашкевіч**, **Эмілія Ларыёнава**, **Сяргей Карзей**, Алег Чэчанеў.

– Іграю Чорта каля 20 гадоў. Роля на сцэне і жыццё – часцей дзве супрацьлеглыя рэчы. У свой час рэжысёр – **Андрэй Андросік** – даў выразную ўстаноўку. Гэта не Чорт у класічным разуменні. А істота, якая страціла сэнс існавання. Таму стараюся надзяліць персанаж чалавечымі якасцямі. Ён у меру гуллівы, гумарны і абаяльны. Злуецца, філасофствуе і дарує, – дзяліцца Чэчанеў.

Характэрны грым – абавязковая ўмова такога спектакля. Яго некалі прыдумаў вядомы тэатральны грымёр **Канстанцін Мамацюк**.

– Рука ўжо набітая, раблю грым хвілін за 30. Самае складанае – расцерці гумоз да вязкасці пластыліну, вылепіць рожкі і нос. Часам злуе якасць клею, а яшчэ потааддзяленне. З-за гэтага некалькі разоў рог у мяне адвальваўся і падаў на сцэну прама падчас спектакля.

Афішу тэатра можна ўбачыць на 23 старонцы «Рэгіянальнай газеты».

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Станачкавы, Старулёвы, Мамэртавы...

## З гісторыі крэўскіх мянушак

СМАРГОНЬ

**Здаецца, вельмі рэдка ў краязнаўстве звяртаюцца да такога пытання, як мянушкі жыхароў той ці іншай мясцовасці. Але тэма гэтая карысная і цікавая.**



Вяселле ў Крэве ў 1950-я гады. Нярэдка з нараджэннем сям'і нараджалася і новая сямейная або родавая мянушка.

Афіцыйныя прозвішчы – гэта першапачаткова тыя ж мянушкі, якія некалі зафіксавалі ў афіцыйных дакументах. У крэўскай гаворцы паняцце «прозвішча» працягвае адносіцца не да афіцыйнага наймення сям'і ці рода, а менавіта да таго, што ў літаратурнай мове называецца мянушкай. Тое ж, што запісваецца ў пасведчанне аб нараджэнні ці пашпарт, мае ў нас, як і ў рускіх, назву «фамілія».

У гэтым матэрыяле раскажу чытачам пра крэўскія мянушкі, якія ўзніклі ад імёнаў.

### Жаніх і нявеста – абое Магеры

Наколькі мне вядома, наш зямляк **Уладзімір Някляеў** толькі адзін свой твор, паэму «Вялікдзень», апублікаваў пад псеўданімам. У якасці яго паэт абраў дзявочае прозвішча маці – **Магер**. І гэта быў не адзіны магчымы варыянт, каб адначасова і асабістае прозвішча ўтаіць, і не аддаляцца ад сваіх каранёў.

Магераў у Крэве некалькі сем'яў, але не заўсёды гэта сваякі. Вядомы нават выпадак, калі і жаніх, і нявеста, уступаючы ў шлюб, былі Магерамі. Падобная сітуацыя і з сем'ямі **Крэслаў**, **Майсевічаў**, **Страхаў**, **Былінскіх**, **Міхалькевічаў**, **Грынкевічаў**, **Леановічаў**.

Усе крэўскія Магеры, да прыкладу, дзеляцца на **Волюсевых**, **Мішанькавых**, **Яфрэмавых (Ахрэмавых)**, **Ваньшавых**, **Стапулёвых**... Прычым мянушак у адной і той жа сям'і можа быць некалькі. У Магераў, з якіх паходзіла маці Някляева, былі дзве – **Маркавы** і **Таляковы**. Так што паэт, калі было б жаданне, у якасці свайго псеўданіма мог выкарыстаць і іх.

### Матэўкавы і Мацейкавы – ад імя Мацвей

Найчасцей сямейныя паходзяць ад імя каго-небудзь з продкаў. Не цяжка здагадацца, што падобным чынам утварыліся наступныя назвы некаторых крэўскіх родаў: **Міронавы**, **Тарасовы**, **Сцёпкавы**, **Спірыдонавы**, **Сямёнавы (Сенькавы)**, **Ягоравы**, **Федзевы**, **Лявонавы**, **Міхасёвы**. Часам імёны пры гэтым крыху трансфармаваліся пад тутэйшую гаворку, набываючы непараўнальны мясцовы каларыт. Даведваемся пра мясцовыя формы даволі распаўсюджаных у мінулым імён з наступных мянушак: **Юзкавы і Юзавы** (ад Юзка, Юза – Іосіф), **Матэўкавы і Мацейкавы** (ад Матэва, Мацейка – Мацвей), **Ігналёвы** (Ігналь – Ігнат).

Адна з такіх мудрагелістых формаў адбілася ў мянушцы **Стапуль (Стапулёвы)**. Яшчэ ў дзяцінстве мы з сябрамі ламалі галовы, спрабуючы растлумачыць, чаму ўсе так называюць аднаго дзядулю з нашай вуліцы, афіцыйнае імя якога было **Іван**. Варыянтаў было дзясяткі, але, здавалася, нават сам гаспадар не ведаў правільнага. «Стапуль – дык Стапуль», – абыякава адказваў ён на нашы роспыты. А можа, проста ён не разумеў нашай зацікаўленасці тым, што для яго самога было такім звычайным і простым.

Я толькі цяпер, захварэўшы жаданнем паставіць усё на свае месцы, знайшоў, здаецца, правільны адказ. Стафан – вось імя, з якога ўсё пачалося. Гук «ф», які быў не дасападобы ўсходнім славянам, яны замянілі ў дадзеным выпадку на «п». Выйшла – «Сцяпан», ці, у іншым варыянце, зафіксаваным моваязнаўцам і нашым земляком **Янкам Станкевічам**, – «Стапан». Ад «Стапан» магло пайсці «Стапуль», утварэнне тыпу Вінцуль (ад Вінцэсь), Дануль (ад Даніла).

Яшчэ адно забытае вытворнае, ужо ад імя Станіслаў – Станька. Раней яно, поруч з асноўным, магло ўжывацца і ў якасці афіцыйнага. Менавіта ў гэтай форме ў дакументах канца XV стагоддзя значыцца імя тагачаснага крэўскага старосты – **Станька Дукурн**. А ўжо бліжэй да нашых дзён гэту форму ўжывалі толькі як памяншальнае імя, і адна крэўская сям'я мела мянушку, утвораную ад такога варыянту, – **Станачкавы**.

### Крэўская экзотыка ў мянушках

Сярод імён, ад якіх пайшлі многія мясцовыя мянушкі, траплялюцца даволі экзатычныя, якія ў наш час не толькі не ўжываюцца, але маладзейшае пакаленне нават будзе сумнявацца, што такія імёны ўвогуле існавалі – **Мамэртавы**, **Калістратавы**, **Волюсевы**, **Нікандравы** (відазмененае з часам у Лякандравы), **Флёркавы**.

Праўдападобна, што ад імёнаў утварыліся мянушкі **Каралёвы** і **Пуды (Пудзюкі)**. Караль (Кароль, Карл) – гэта імя мела раней даволі шырокі ўжытак. А пад словам «пуд», у асноўным, падразумяваюць старадаўнюю меру вагі, нават не падазраючы, што калісьці існавала такое імя, якое прыйшло з лацінскай мовы і абазначала «сарамлівы».

Па мянушцы, якая пайшла ад імя, можна было вызначыць веравызнанне чалавека. Імёны, якія даюць дзецям у каталіцкай сям'і, часта адрозніваюцца ад імён у сям'і праваслаўнай. Асабліва гэта было прыкметна раней, калі людзі больш пільна прытрымліваліся святцаў з пералікам святых з днямі іх памінання. **Федзевы**, **Ягоравы**, **Ляксеевы** – відавочна, гэта людзі з праваслаўных сем'яў. А вось **Бронюсевы**, **Мамэртавы**, **Бэрнусевы** – яны, хутчэй за ўсё, будуць каталікамі. Праўда, сцвярджаць гэта на ўсе сто нельга, калі ўлічваць шматлікія змешаныя шлюбы ў нашай мясцовасці і прымусовыя пераводы з адной канфесіі ў іншую.

### Калі муж атрымліваў жончыну мянушку

Мянушкі, утвораныя ад імёнаў, нельга атаясамліваць з уласцівымі рускай традыцыі імёнамі па бацьку, бо першымі могуць надзяляць не толькі дзяцей, але і больш далёкіх нашчадкаў тых, ад чыйго імя тая мянушка пайшла. Больш за тое, для іх стварэння падыходзяць не толькі мужчынскія, але і жаночыя імёны: **Зосіны**, **Альбініны**, **Масіны** (Мася – адзін з варыянтаў імя Марыя), **Мальвініны**.

Некаторыя мянушкі паходзяць ад жаночых імёнаў ці ад дзявочых прозвішчаў жанчын, якія выйшлі замуж. **Ангельскіх** з вуліцы Зарэчнай, напрыклад, часам называюць **Шыпкоўскімі**, па прозвішчы жонкі, Дзятковічаў са Смаргонскай – **Ганечкінымі**, па імені гаспадыні.

Найчасцей, такая з'ява назіраецца тады, калі муж ідзе ў прымакі, інакш кажучы, перасяляецца ў дом жонкі. У такіх выпадках нават мянушка жончынай сям'і можа перакачаваць да мужа. Да прыкладу, **Пятроўскага Юзіка** называюць Мамэртавым, хоць **Мамэрта** – імя жончынага бацькі.

Мянушка, утвораная ад жаночага імя, можа ўзнікнуць і тады, калі сям'ю ўтрымлівае маці-адзіночка альбо ўдава. Нас, **Камінскіх**, да прыкладу, часам называлі **Зосінымі**, па імені маёй бабулі, якая доўгі час гадавала сваіх дзяцей без мужа.

**Аляксандр КАМІНСКІ, Крэва.**

**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Пачатак. Працяг у наступных нумарах.*

---

● КАЛЯНДАР

**29 ВЕРАСНЯ**

**1823.** 195 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Сыракомлі** (сапр. Людвік Францішак Уладзіслаў Кандратовіч), беларускага і польскага паэта-гуманіста, пісьменніка. Яго першы верш «Паштальён» у скарочаным перакладзе стаў папулярнай рускай песняй «Ямшчык». Творчасць паэта была звязаная з гісторыяй Беларусі, з вераваннямі, звычаямі і фальклорам беларускага народа. Памёр 15 верасня 1862 года ў Вільні.

**1794.** Нарадзіўся **Ігнат Ходзька**, польскі пісьменнік, мемуарыст. Жыў на тэрыторыі цяперашніх Вілейскага і Смаргонскага раёнаў.

**30 ВЕРАСНЯ**

**290 гадоў** з дня нараджэння **Марціна Пачобута-Адляніцкага** (1728 – 1810), беларускага астранома і асветніка. У 1770 годзе быў абраны членам Лонданскага навуковага таварыства, і ў тым жа годзе загадам караля Станіслава Аўгуста быў выбіты медаль з партрэтам Марціна Пачобута.

**1890.** Нарадзіўся **Антон Ляшчэвіч** (вёска Абрамаўшчына, цяпер Смаргонскі раён), рымска-каталіцкі святар-марыянін, блаславёны.

**1 КАСТРЫЧНІКА**

**1918.** 100 гадоў таму ў Мінску адчынілася каталіцкая духоўная семінарыя.

**2 КАСТРЫЧНІКА**

**1413.** 605 гадоў з дня падпісання Гарадзельскай уніі – саюза Вялікага Княства Літоўскага з Польскім каралеўствам. Тры граматы (прывілеі) гэтай уніі падпісаныя ў г. Гарадле на Заходнім Бугу. Яна ўмацоўвала сілы ВКЛ і Польшчы ў барацьбе з замежнай агрэсіяй. Юрыдычна абвяшчалася аб'яднанне дзвюх дзяржаў, аднак гарантавалася незалежнасць улады вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага.

**4 КАСТРЫЧНІКА**

**1582.** У Рэчы Паспалітай уведзены грыгарыянскі каляндар.

**1923.** У кастрычніку спаўняецца 95 гадоў з часу ўтварэння Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), якая арганізоўвала і накіроўвала барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Дзейнічала на правах тэрытарыяльна-аўтаномнай арганізацыі Кампартыі Польшчы, падзяляла яе праграму і статут. КПЗБ абараняла інтарэсы працоўных, змагалася супраць антынароднага рэжыму ў Заходняй Беларусі, асвятляла жыццё ў БССР. Спыніла існаванне ў 1938 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# «Выглядаем, як носьбіты англійскай, в'етнамцы вераць»

## Навошта выкладчыку патрэбны асістэнт і чаму дзеці гуляюць на ўроках

МАЛАДЗЕЧНА

**У папярэдніх выпусках мы расказалі, як маладзечанка Ганна Мажуць трапіла ў В'етнам, якое ўражанне атрымала ад азіяцкай краіны і чым яна адрозніваецца ад Беларусі. Серыю публікацый скончым расказам пра працоўныя будні дзяўчыны за мяжой.**

У праекце ад AIESEC Ганна падала заяўку на выкладчыцу англійскай мовы. Працаваць давялося ў прыватным цэнтры ў Хайфоне.

### Адукацыя ў В'етнаме платная

Амаль уся адукацыя ў В'етнаме платная. Бясплатна можна атрымаць толькі пачатковую адукацыю і толькі ў дзяржаўнай школе. Пры гэтым за падручнікі, форму і іншыя выдаткі бацькі ўсё роўна плацяць.

Ёсць дзяржаўныя, прыватныя і міжнародныя школы. Першыя падзяляюцца на агульнаадукацыйныя і спецыялізаваныя, простыя і элітныя. Каб трапіць у «добрую» школу, трэба мець і сродкі, і сувязі. Вучыцца ў дзяржаўных школах танней. Але з-за інфляцыі навучанне даражэе. У 2015-2016 навучальным годзе ў гарадах яно складала каля 30 рублёў у месяц.

Чым больш прэстыжная школа, тым часцей дадатковыя зборы. Грошы патрэбныя пры паступленні, на падтрыманне і рамонт школы, на патрэбы класа, на падручнікі і форму, афармленне абавязковага медыцынскага страхавання. Таксама на падарункі настаўнікам і дырэкцыі. У В'етнаме «традыцыйны» набор з кветак, цукерак і алкаголю дапаўняюць канвертам з грашыма. У некаторых школах нават прадугледжаная дадатковая плата за ўрокі ў класах, абсталяваных кандыцыянерамі.

У прыватных школах вучняў менш, класы новыя. Ёсць дадатковыя прадметы на выбар, а выкладанне часта вядзецца на дзвюх мовах – в'етнамскім і замежнай, у залежнасці ад арыентацыі школы.

### Як праходзяць урокі ў В'етнаме

Урокі ў першую змену ў в'етнамскіх дзяцей пачынаюцца ў сем трыццаць раніцы. Да восьмай школьнікі вучаць гісторыю, спяваюць гімн – нешта накшталт палітінфармацыі. «Нагадваю, гэта сацыялістычная Рэспубліка В'етнам. Там Хо Шы Мін ляжыць, як Ленін у Маскве, а ў Ханоі ёсць плошча Леніна.

Старэйшае пакаленне ведае рускую, бо ў школе вучыла яе як мову сяброўскай ім сацыялістычнай рэспублікі. «Кацюшу» пяюць, Пугачову ведаюць – «Миллион алых роз». Праўда, на в'етнамскай спяваюць».

Хо Шы Мін – в'етнамскі камуністычны дзеяч, заснавальнік Камуністычнай партыі В'етнама, першы прэзідэнт Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

Заняткі доўжацца да 11 і больш, потым – перапынак на сон. Пасля яго дзеці, у залежнасці ад школы, вяртаюцца на вучобу ў прамежак ад 13 да 15 гадзін. Вучацца пару гадзін, пасля ідуць дадому. Некаторыя школьнікі наведваюць дадатковыя заняткі па англійскай.

Другая змена пачынаецца ў 12 і доўжыцца да 16 і больш. Калі яна ёсць, то толькі ў пачатковай школе.

### Людзі вераць таму, што бачаць

Менавіта ў адукацыйны цэнтр, дзе працавала Ганна, дзеці ішлі пасля ўрокаў у школе. Па буднях першы ўрок доўжыўся ад 17:30 да 19:00, ад 19:30 да 21:00 – другі. Актыўней з дзецьмі працавалі, калі ў іх было больш часу – падчас выхадных і канікулаў.

У класе было 18 чалавек. У дзяржаўных школах звычайна каля 50.

**Адукацыя ў прыватнай школе каштуе дорага. Не кожны можа адвесці дзіця ў цэнтр.**

– Такія грошы бяруць, бо ў нас працуюць носьбіты мовы. Не ўсе, канешне, але людзі вераць таму, што бачаць. Мы выглядаем, як носьбіты. Таксама не проста вучым, але і гуляем з дзецьмі. Гэта класна ўплывае на веды.




Ганна і лепшыя вучні цэнтра на адукацыйным конкурсе Spelling Bee. Чацвёра з пяці – вучні Ганны.

### Вучаць англійскай ад двух гадоў

Ганна вучыла дзяцей ад двух да пятнаццаці гадоў. Акрамя трох прыватных школ, дзе яна працавала, падпрацоўвала ў двух дзіцячых садках, каб было больш працоўных гадзін. Вяла ўрокі па 30 хвілін.

Спачатку ў праекце абяцалі 600 долараў за месяц. Але з-за нагрузкі яна заўсёды зарабляла больш. Нічога не расказалі пра работу. Паказалі, як выкладае в'етнамскі выкладчык і чашка Тэрэза. Сказалі прыдумаць самой структуру ўрока.

Класы фарміраваліся ў залежнасці ад узроўню ведаў англійскай, ад узросту. Дзяўчына заўсёды працавала з асістэнтам. Ён перакладаў тое, што кажуць дзеці.

Вучні раз на тыдзень наведвалі «носьбіта мовы», другі – в'етнамскага выкладчыка.

### Сама прыдумвала гульні для вучняў

Заняткі доўжыліся па паўтары гадзіны, праходзілі ў гульнявой форме. Вучні танцавалі, разміналіся пад дзіцячую песню, вучылі новую тэму. Маленькія звычайна – па два-тры словы.

– Частку гульняў «падарылі» чэхі, з якімі жыла. Успамінала ўрокі фізкультуры, розныя эстафеты, гульні «Ручаёк», «Ногі», «Ніндзя».

Са старэйшымі Ганна працавала па кнігах. Уключала ім кароткія відэа на розныя тэмы, напрыклад, серыял «Экстра». Яго распрацаваў брытанскі тэлеканал Channel 4 для хуткага засваення гутарковай англійскай мовы. Даўжыня аднаго роліка – каля 20 хвілін.

– Тэма «Шопінг». Разбіраем серыю па сказах, імітуем сітуацыі. Я раздрукоўваю карцінкі адзення, вешаю на інтэрактыўную дошку, вучні выбіраюць, быццам у краме, – працягвае расказ Ганна.

З хлопчыкамі і дзяўчынкамі ад сямі-васьмі гадоў даводзілася працаваць асобна. На думку дзяўчыны, у В'етнаме добра праглядваецца гендарны падзел. У пяць гадоў яшчэ могуць гуляць адзін з адным, потым дзеляцца на «каманды». Нават пары закаханых не ходзяць па вуліцы за ручку.

### Навошта в'етнамцам англійская

Па словах Ганны, гэта вельмі запатрабаваная мова. Мясцовыя жыхары імкнуцца ў бліжэйшыя краіны – Аўстралію, Новую Зеландыю. Сярэдні заробак у В'етнаме – 200 долараў. Самай цяжкай і няўдзячнай лічыцца праца на рысавых палях.

В'етнамцы хочуць не проста з'ехаць, а атрымаць за мяжой адукацыю, шмат зарабіць, вярнуцца і распачаць сваю справу. Дыпломы в'етнамскіх універсітэтаў не прызнаюцца ў Еўропе і Амерыцы. Каб можна было працаваць у любым пункце планеты, яны жадаюць атрымаць адукацыю за мяжой.

Неяк дзяўчына гутарыла з мясцовым хлопцам Томам, ён вучыцца на пілота.

– Кажа, люблю бацькоў, ніколі далёка не з'еду. Яны не маюць вышэйшай адукацыі, але для мяне шмат гадоў збіралі грошы. Я ім абавязаны, цяпер маю высокую матывацыю, каб зарабіць і адкрыць бізнес.



Ганна з калегай Дэйзін на навагоднім карпаратыве, Хайфон.

### «Не будзеш слухацца, паб'ю да смерці»

Замест адзнак у цэнтры давалі стыкеры. Пяць і вышэй – малайчына, адзін – дрэнна. Стыкеры прапаноўвалі абмяняць на налепкі, кнігі, заплечнікі.

Неяк Ганна дала вучню толькі адзін стыкер. Бацькі папрасілі патлумачыць. «Кажу, хлопчык натуральна кусае астатніх дзяцей, бегае на занятках і шлёпае асістэнта па мяккім месцы. Бацькі пры мне сказалі: «Я цябе паб'ю да смерці, калі не будзеш слухацца выкладчыка». Адна справа, калі між сабой дзеці разбіраюцца. Але калі бацькі іх б'юць – дрэнна».

Цяпер дзяўчына зноў паехала ў В'етнам, але ўжо не па праграме ад AIESEC. У планах – праз два месяцы ўзяць адпачынак і паездзіць па краіне, паглядзець іншыя мясціны.

– У гэты раз вырашыла паехаць без падтрымкі арганізацыі. Люблю Беларускую асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА і прафесію журналіста. У мяне ёсць знаёмыя ў любым кутку свету. Калі будзе цяжка, змагу паехаць да іх з В'етнама ў любы момант.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечаныя Ганнай МАЖУЦЬ.**

# Заўзеюць за БАТЭ амаль у 90 гадоў

## Пятру – 89, Маргарыце – 84. Былыя геадэзісты расказалі пра доўгае сямейнае жыццё

МАЛАДЗЕЧНА

**Міжнародны дзень сталых людзей святкуюць штогод 1 кастрычніка. З гэтай нагоды мы вырашылі пагутарыць з сямейнай парай, якая на працягу ўжо 62 гадоў дзеліць паміж сабой і радасць, і гора.**

Наша гісторыя пачынаецца ў вёсцы Бухаўшчына, якая пасля стала мікрараёнам Маладзечна. Тут у красавіку 1929 года на свет з'явіўся наш герой – **Пётр Салагуб**.

**І Пётр, і Маргарыта – былыя геадэзісты. Пра сваё жыццё яны расказваюць з досведам людзей, якія паспелі пабачыць свет.**

### Як пазнаёміліся

Пётр скончыў школу, паступіў у мінскі тэхнікум на тарфяное аддзяленне. Яму спадабалася геадэзія, таму наведваў гадавыя курсы, павышаў кваліфікацыю. У 1951 годзе пайшоў працаваць у «Белдзяржпраект».

– Менавіта там сустрэў сваю прыгажуню, – расказвае мужчына. – Пабачыў і адразу закахаўся. Было мне 27 гадоў. Ажаніліся прыкладна праз паўгода пасля сустрэчы.

Геолагам Маргарыта марыла стаць з маладосці – натхніў фільм. У тым годзе, калі яна паступала вучыцца, не набіралі на аддзяленне геалогіі. Затое набіралі тапаграфаў. Дзяўчына пагадзілася.

Лёсы нашых герояў назаўсёды звязаліся дзякуючы агульнай працы.

### Дзе працавалі

Маладыя пераехалі з Мінска ў Маладзечна працаваць. Пётр рабіў тапаграфічныя здымкі пад будаўніцтва. Аб'ездзіў усю Беларусь: Навагрудак, Нясвіж, Старыя Дарогі, Мядзел. Калі ў зоне адчужэння для чарнобыльцаў планавалі будаваць новыя дамы, два тыдні рабіў здымкі там. Праўда, маскоўскія спецыялісты праз час з-за радыяцыі спынілі будоўлю.

**Падчас адпачынку ці на выхадных Маргарыта падпрацоўвала экскурсаводам. У паездкі брала з сабой мужа. Разам яны аб'ездзілі многія краіны.**

У 1982 годзе Маргарыту скарацілі, пайшла працаваць на ЗМК майстрам. Праз два гады ўладкавалася ў гарвыканкам, на пенсію сышла інжынерам. Потым тры гады працавала ў падатковай. «Сумленна ставілася да працы, не ўхілялася, фота заўжды віселі на Дошках пашаны».

### Дзяцінства падчас вайны

Маргарыта нарадзілася ў 1934 годзе ў Мінску. З малых гадоў пабачыла жахі вайны. З-за яе Маргарыту з сястрой, братам і маці эвакуявалі ў Казахстан. Бацька адправіўся служыць – быў лётчыкам. Пры эвакуацыі ехалі ў грузавых вагонах, у якіх звычайна возяць жывёлу. У дарозе пачалася бамбёжка.

У Казахстане Маргарыта хадзіла ў школу.

Толькі нядаўна жанчына даведалася, што бацька загінуў недзе ў Керчы, што ва ўсходняй частцы Крыма, падчас службы.

З успамінаў Маргарыты:

**– Падчас практыкі, на праваслаўнае свята Уздзвіжанне, з аднагрупнікамі працавалі над дэшыфраваннем, малявалі рэльеф. Пасля абеду заснулі і нечакана праспалі. Прачнуліся, выбеглі да паляны. Перад гэтым была вялікая бура, шмат паваленых дрэў пакінула. А на іх, як у казцы, выгіналіся змеі. Спыніліся, як укапаныя. Раней казалі, што на Уздзвіжанне змеі збіраюцца ў лесе. Сама гэта бачыла, жахлівая карціна.**



Маргарыта і Пётр Салагубы з дочкамі Маргарытай і Алай.

### Чым займаюцца цяпер

Муж і жонка цікавяцца спортам. Кажуць, раней яму надавалі большую ўвагу. Маргарыта прызнаецца, што амаль ніколі не хварэла. Пасля 80 гадоў неяк прыйшла ў паліклініку, дык персанал выйшаў падзівіцца. Аказваецца, за апошнія 24 гады Маргарыта да іх не звярталася.

– Заўсёды рабілі зарадку, бадмінтон, валейбол, удзельнічалі ў спаборніцтвах па лыжах, хадзілі на каток. Гулялі ў шахматы і шашкі. Цяпер заўзеем за БАТЭ, глядзім гандбол, – усміхаецца Маргарыта і паказвае фота:

– Вось мы на лыжах... Якія былі маладыя. Так хутка час прайшоў.

– Не заўважыў, як гады праляцелі, быццам адзін дзень, – дадае Пётр. – На дачу вось сходзіш, чатыры кіламетры ад электрычкі. З міліцыяй, аперацыю нядаўна на нагу зрабілі.

– Добра, што мы памятаем усё. Як падарожнічалі па Каўнасе, Вільні, Рызе... Як атрымлівалі па талонах смачную юшку на возеры Рыца ў Абхазіі. Ляжыш, успамінаеш перад сном, што бачылі. Столькі гадоў разам, муж мяне супакойвае, я яго.

**Таццяна КАСЬЯН.**



З калегамі. У ніжнім радзе злева направа – Пётр і Маргарыта Салагубы.

Фота з архіва Пятра і Маргарыты САЛАГУБАЎ.



Уважаемый
Петр Михайлович!
Коллектив МКПМ сердечно поздравляет
Вас с Юбилеем! От всей души
желает крепкого здоровья на долгие годы,
неиссякаемого оптимизма и бодрости!
Мы высоко ценим Ваш многолетний труд, Вашу
энергию, великодушие и любовь к людям!

Вам сегодня ровно шесть...
В душе у нас недоумение
Неужель земля могла существовать
До Вашего рожденья?
Уже шесть десятков лет
Ток тебе отстукал...
Теперь все лучшее в себе
Передайте внукам.
Если [illegible] ты вдруг станешь
Побелеешь вдруг лицом,
Спецодежду как оденешь –
Сразу станешь молодцом.
С землей, как пахарь, дружишь ты,
Не жито сеешь, не цветы,
Но знают лето и зима,
Где ты проходишь, растут дома!
Коллектив МКПМ

Юбілейная паштоўка Пятру Салагубу ад калег.

Фота Таццяны КАСЬЯН.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» заваявала перамогу

**СМАРГОНЬ**

З гасцявога выезду ў Слонім «Мядзведзі» прывезлі перамогу.

Гульня скончылася з лікам 1:2. Ад смаргонцаў галы забілі **Сямён Смунёў** на 59-й хвіліне і **Уладзімір Казко** на 76-й.

Каманда палепшыла пазіцыю ў турнірнай табліцы пасля 23-га тура: з 11-й перайшла на дзявятую. Са светлагорскім «Хімікам» «Смаргонь» мае па 25 ачкоў.

Прэс-служба футбольнага клуба назвала перамогу валявой і адзначыла, што вынік перарваў сяміматчавую нічыйную серыю.

## «Чысць» згуляла ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каманда выступіла ў гасцявым матчы ў Жыткавічах.

Галы з боку маладзечанцаў забілі **Аляксандр Ксенафонтаў** і **Юры Лавец** на шостай і 38-й хвілінах адпаведна.

Гаспадары адказалі двума галамі.

Па выніках розыгрышу 23-га тура «Чысць» застаецца на 15-м радку турнірнай табліцы, саступаючы тры ачкі «Баранавічам».

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Энергетик-БГУ (Минск) | 22 | 16 | 4 | 2 | 49-16 | 52 |
| 2 | Славия (Мозырь) | 21 | 15 | 6 | 0 | 49-9 | 51 |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 21 | 15 | 4 | 2 | 45-14 | 49 |
| 4 | Лида | 21 | 11 | 4 | 6 | 28-14 | 37 |
| 5 | Локомотив (Гомель) | 21 | 7 | 9 | 5 | 32-18 | 30 |
| 6 | Гранит (Микашевичи) | 22 | 7 | 9 | 6 | 24-26 | 30 |
| 7 | Нафтан (Новополоцк) | 21 | 7 | 8 | 6 | 21-17 | 29 |
| 8 | Слоним-2017 | 22 | 7 | 6 | 9 | 29-30 | 27 |
| 9 | Химик (Светлогорск) | 21 | 7 | 4 | 10 | 24-29 | 25 |
| 10 | Сморгонь | 21 | 6 | 7 | 8 | 17-34 | 25 |
| 11 | ЮАС (Житковичи) | 21 | 5 | 8 | 8 | 18-26 | 23 |
| 12 | Орша | 22 | 5 | 3 | 14 | 23-39 | 18 |
| 13 | Волна (Пинск) | 22 | 4 | 6 | 12 | 18-41 | 18 |
| 14 | Барановичи | 22 | 2 | 7 | 13 | 11-29 | 13 |
| 15 | Чисть | 22 | 1 | 7 | 14 | 25-71 | 10 |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» правалiла гульню з «Горкамі»

**МАЛАДЗЕЧНА**

22 верасня каманда гуляла на выездзе ў Горках.

Матч закончыўся з лікам 6:0 на карысць гаспадароў. Маладзечанцы не адказалі ніводным голам.

Па выніках 23-га тура маладзечанцы займаюць 13-ы радок турнірнай табліцы.

ЧЕМПИОНАТ БЕЛАРУСИ ВТОРАЯ ЛИГА
ФУТБОЛ
ФК Молодечно
ФК Энергетик-БГАТУ
29 сентября 14-00 суббота
SELECT
Вход бесплатный!
ГОРОДСКОЙ СТАДИОН
vk.com/fcmolodechno

Афіша забяспечана Дзмітрыем РУЛЕВІЧАМ.

## У Маладзечне згуляюць у футбол

**МАЛАДЗЕЧНА**

Гульня паміж ФК «Маладзечна» і мінскім ФК «Энергетык-БДАТУ» адбудзецца 29 верасня на гарадскім стадыёне. Пачатак а 14-й. Уваход вольны.

За ФК «Маладзечна» ў мінулым туры дэбютаваў выхаванец мясцовай ДЮСШ – нападаючы **Алег Сянько** 2001 года нараджэння.

**Аддзел інфармацыі.**

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 21 | 18 | 2 | 1 | 70-13 | 56 |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 22 | 18 | 2 | 2 | 65-11 | 56 |
| 3 | Спутник (Речица) | 22 | 14 | 2 | 6 | 56-19 | 44 |
| 4 | Ошмяны-БГУФК | 21 | 14 | 1 | 6 | 58-25 | 43 |
| 5 | Осиповичи | 22 | 11 | 5 | 6 | 46-27 | 38 |
| 6 | Узда | 20 | 10 | 3 | 7 | 46-34 | 33 |
| 7 | Ивацевичи | 21 | 9 | 5 | 7 | 32-30 | 32 |
| 8 | Виктория (Марьина Горка) | 22 | 8 | 3 | 11 | 24-41 | 27 |
| 9 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 22 | 8 | 3 | 11 | 21-41 | 27 |
| 10 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 21 | 5 | 4 | 12 | 25-44 | 19 |
| 11 | Клецк | 21 | 5 | 4 | 12 | 24-48 | 19 |
| 12 | Неман-Агро (Столбцы) | 21 | 5 | 4 | 12 | 23-67 | 19 |
| 13 | Молодечно | 22 | 4 | 6 | 12 | 32-49 | 18 |
| 14 | Горки | 21 | 2 | 6 | 13 | 29-57 | 12 |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 19 | 2 | 2 | 15 | 14-59 | 8 |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца другой лігі.

# Раскачалі «ўсухую»

## З разгромным лікам 9:0 маладзечанскія «Зубры» абыгралі «Беларусь U-20»

**МАЛАДЗЕЧНА**

На дамашняй пляцоўцы 22 верасня хакейны клуб «Дынама-Маладзечна» праводзіў матч супраць моладзевай зборнай Беларусі да 20 гадоў.




Фота забяспечана прэс-службай ХК «Дынама-Маладзечна».

Злева направа: пад нумарам 33 – Багдан Зазон, 17 – Станіслаў Кучкін, 21 – Герман Несцераў.

### Клюшка лётала ў паветры

З першых хвілін матча стала зразумела, што гаспадары настроеныя рашуча. І хаця саперніکі змагаюцца, як могуць, у першым перыядзе лік адкрывае нападаючы **Павел Печур** – 1:0. Праз пяць хвілін нападаючы з каманды зборнай **Павел Ажгірэй** атрымлівае штраф за штуршок саперніка.

За атаку рукамі караюць абаронцу «Дынама» **Алега Гарошку**. Восем хвілін да канца першага перыяду, напружаны момант і... Гульня працягваецца. **Захара Палішчука** з каманды сапернікаў «Зуброў» штрафуюць за гульню з высока паднятай клюшкай.

Праз некалькі хвілін Гарошка забівае другі гол.

Гульцам «U-20» не шанцуе. **Дзмітры Саўрыцкі** і **Аляксандр Шкрабаў** з прамежкам у хвіліну атрымліваюць штрафы. Клюшка аднаго з хакеістаў натуральна лётае ў паветры.

Першы перыяд гульцы заканчваюць з лікам 3:0. Апошні за гэтыя 20 хвілін гол забівае **Аляксей Яфіменка**.

### Чатыры галы за перыяд

З падачы **Андрэя Бялевіча** чацвертую шайбу ў вароты сапернікаў у першыя хвіліны адпраўляе гулец каманды «Зуброў» **Артур Гаўрус**. Другі перыяд абяцае быць насычаным і для хакеістаў, і для балельшчыкаў. З трыбун далятаюць радасныя «Бела-сінія, наперад!», «Перамога сёння «Дынама». Чаканні спраўджваюцца – пяты і шосты галы забівае «дынамавец» **Вячаслаў Грэцкі**. Адзін з іх нават у меншасці. А вось абаронца «бела-сініх» **Багдан Зазон** атрымлівае штраф.

У камандзе зборнай – змена варатара. Гарошку другі раз за матч штрафуюць – цяпер за затрымку саперніка рукамі. Таксама другі раз шайба Яфіменкі ляціць у вароты «чырвона-белых». З лікам 7:0 «Зубры» і «U-20» ідуць чакаць наступны перыяд.

У прамежках паміж перыядамі праводзяць конкурсы для заўзятараў на прызы клуба. Лепшым дораць квіткі на наступны матч. Выдаюць абанементы тым, хто іх замовіў ці набыў.

Хутка сапернікі трэці раз сустракаюцца на лёдзе. Чарговую шайбу «дорыць» зборнай **Вячаслаў Лісічкін**. **Кучкіна** караюць за ўдар апанента клюшкай. Таксама штрафуюць гульца «U-20». Апошні гол матча забівае **Журня**. З лікам 9:0 заканчваецца гульня.

11 верасня «дынамаўцы» абыгралі зборную з лікам 7:0. Нагадаем, у жніўні каманды «абмяняліся» трэнерамі. «U-20» стаў вучыць былы трэнер «Зуброў» **Дзмітры Краўчанка**. Да «бела-сініх» прыйшоў **Юры Файкоў**.

### «Галоўнае – гнуць сваю лінію»

– Цяпер нам цяжка гуляць з моцнымі камандамі. Трэба чымсьці ахвяраваць. Або падладжвацца пад кожную каманду, або наладжваць свае ўзаемадзеянні. Нашы думкі і падрыхтоўка не дазваляюць змагацца на роўных, – пракаментаваў матч галоўны трэнер «U-20» Дзмітры Краўчанка. – Але і ў гэтай гульні былі станоўчыя моманты. Мінімальныя, непрыкметныя. За кошт таго, што гуляем з моцнымі сапернікамі, будзем расці. Спачатку адзін перыяд выйграем, потым два, усю гульню. Галоўнае – гнуць сваю лінію і не гібець. З кожнага мінуса можна зрабіць плюс.

Па словах галоўнага трэнера ХК «Дынама-Маладзечна» **Юрыя Файкова**, каманда «U-20» выдатна пачала гульню.

– Дзякуй **Віталю Бялінскаму**, падцягнуў. Увогуле, трэнер рэалізуе свае задумкі, не бачу трагедыі ў выніках. Што тычыцца «Дынама-Маладзечна», два апошнія матчы з «Юнацтвам» і «Шахцёрам» гулялі добра. Але была галавая засуха ў нападаючых. Сёння папрасілі іх глыбока адчуць гульню, злавіць моманты, пагаварылі спакойна, хлопцы пагадзіліся. У «Дынама» нядаўна была пяціматчавая выязная серыя. Спадзяюся, дома дапамогуць і сцены, будзем рыхтавацца да дамашніх матчаў.

Раней «Дынама-Маладзечна» было фарм-клубам мінскага «Дынама». Ад 2 мая – гэта асобная структура, заснавальнікам якой з'яўляецца Мінскі абласны выканаўчы камітэт, каманда належыць вобласці. Сімволіку і назву на гэты сезон захавалі.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Віталь Качаткоў выдае другую кнігу пра шахматы

**МАЛАДЗЕЧНА**

### Амаль уся кніга складаецца з карцінак-дыяграм.

«Тактыка для пачынаючых чэмпіёнаў. Задачы па шахматах» – называецца выданне.

Кнігу друкуюць у мінскім выдавецтве «Медысонт». Там аўтар выдаваў і папярэднюю кнігу «Мат у адзін ход».

Качаткоў адзначае, што ўлічыў усе заўвагі да папярэдняга выдання і зрабіў новы зборнік яшчэ больш карысным і насычаным. «Мат у адзін ход» зацікавіў шахматыстаў ЗША, таму ў новым задачніку аўтар дадаў апісанне і па-англійску.

– У сучасным свеце набірае абароты роля логікі. А менавіта шахматы выдатна яе развіваюць. Мае кнігі дапамагаюць дзецям, бацькам і настаўнікам – для ўсіх іх гэта выдатны дыдактычны матэрыял, – дадаў Віталь Качаткоў.

Шахматныя зборнікі прадаюць у кнігарнях.

**Аддзел інфармацыі.**




Ілюстрацыя забяспечана Віталем Качатковым.

Вокладка кнігі «Тактыка для пачынаючых чэмпіёнаў. Задачы па шахматах».

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. Першы каляровы галівудскі фільм называўся «Ахвяры ...».
5. Кандытарскі выраб, які атрымліваецца шляхам перапрацоўкі зерня какавы з цукрам і дадаваннем розных смакавых і пахучых прыпраў.
6. Гэты тавар з Беларусі з'явіўся на купюры ў 200 донгаў у В'етнаме.
7. Адурэнне, замарачэнне.
12. Скандальная выхадка, абураючыя паводзіны.
13. Цвёрды матэрыял з вулканізаваных каўчукавых сумесяў, які выкарыстоўваецца для ізаляцыі.
15. Паляўнічы-прафесіянал, які вядзе нагляд за дзікімі жывёламі, арганізуе паляванне, абучае паляўнічых сабак.
16. Працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў.
17. Металічны стрыжань для смажання шашлыку на агні.
23. Невысокі, да шчыкалаткі і крыху вышэй, скураны абутак на шнурках.
24. Уважлівы, спагадлівы; добразычлівы.
25. Наведнік, абанент грамадскай бібліятэкі, чытальні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Частка памяшкання (паміж знадворнымі і ўнутранымі дзвярамі), якая засцерагае ад пападання ў памяшканне халоднага паветра.
2. Лінейка або табліца з дзяленнямі ў розных прыборах.
3. У 1989 годзе гэты фільм стаў другім у пракаце ў савецкім кінематографе.
8. Гэта дрэва ў славян адказвала за сілу і дастатак, лічылася ў іх свяшчэнным.
9. Калі гэтага расійскага літаратара эмігранты спыталіся, што адбываецца на Радзіме, ён адказаў: «крадуць».
10. Калі яна б'е ў пясок, утвараюцца шкляныя трубачкі.
11. У стараграчаскіх філосафаў-матэрыялістаў – адна з асноўных састаўных частак прыроды (агонь, вада, паветра, зямля), якія ляжаць у аснове ўсіх з'яў і рэчаў; стыхія.
12. Уяўная лінія, якая праходзіць вакол зямнога шэра на роўнай адлегласці ад абодвух полюсаў.
14. Гэты ўкраінскі пісьменнік любіў забіраць цукар з гасцініц, дзе спыняўся. Вельмі любіў салодкае. Мог цалкам з'есці слоік варэння за адзін раз.
18. «Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета ... . Яшчэ, здаецца, учора была гарэза, падлетак, а вось ужо, глядзіце – у самай добрай пары дзяўчына, у самай красе сваёй! Калі толькі вырасла!»
19. Тое, што хаваецца, адрываецца ад іншых, што вядома не ўсім; сакрэт.
20. Пашкоджанне, страта.
21. Гэты элемент жаночага гардэробу вынайшла жыхарка Ракава Валожынскага раёна Іда Разанталь.
22. Гістарычна выпрацаваныя звычаі, погляды, нормы паводзін, якія пераходзяць ад папярэдняга да наступнага пакалення.
24. Перыядычнае выданне ў выглядзе кніжкі.
26. Лёгкая лодка, выдзеўбаная з дрэва; лодка ўвогуле.

## Гараскоп 28 верасня – 4 кастрычніка

**АВЕН.** Якой бы ўладнай і моцнай натурай вы ні былі, трэба заўсёды памятаць, што мяккасцю і ласкавасцю таксама можна дасягнуць вельмі многага, калі ўмела гэтым карыстацца.

**ЦЯЛЕЦ.** Можа паўстаць напружанасць і стомленасць ад дзён, насычаных падзеямі і зменамі. Паспрабуйце забяспечыць спакой на нейкі час і засцерагчы сябе ад лішніх кантактаў.

**БЛІЗНЯТЫ.** Выразна пабудаваная канцэпцыя дазволіць вам дасягнуць поспеху ў многіх сферах і, перш за ўсё, здабыць мір і ўтульнасць дома, падштурхнуць свайго партнёра да наступнага кроку ў вашых адносінах.

**РАК.** Праявіце кемлівасць і прыроджаную мудрасць, вам неабходна скарыстацца падказкамі вашага ўнутранага свету. Гэта вельмі дапаможа разабрацца ў адносінах і зразумець, ці падыходзіць вам гэты чалавек.

**ЛЕЎ.** Для таго, каб дзейнічаць мэтанакіравана і ў канчатковым выніку дасягнуць чагосьці пэўнага, вам трэба ўзяць перапынак. Прысвяціце гэту паўзу вывучэнню сітуацыю, паняццю глыбінных прычын, якія прывялі да яе ўзнікнення, вашых жаданняў і таго, што падштурхоўвае вас да дзеяння. І тады наступныя вашы крокі будуць значна больш дасканалая і прывядуць да патрэбнага выніку.

**ДЗЕВА.** Будзьце ўважлівыя, каб не ўпусціць шанец, які можа хутка падвярнуцца. Трэба толькі праявіць кемлівасць, і вы зможаце атрымаць задуманае.

**ШАЛІ.** Будзьце прыхільныя да іншых людзей, даруйце іх памылкі і дапамагайце па меры магчымасці. Каб не пайсці па лжывым шляху, не заблытайцеся ў сваіх жаданнях і імкненнях.

**СКАРПІЁН.** Вас не пакідае жаданне падпарадкаваць людзей сваёй волі, нават калі гэтыя людзі з'яўляюцца членамі вашай сям'і. Кантралюйце свой унутраны свет, свае жаданні і памкненні.

**СТРАЛЕЦ.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, паніжэння ці павышэння ціску, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

**КАЗЯРОГ.** Вам трэба сабрацца з сіламі. Што трэба рабіць – вы ўжо і так ведаеце, рашучасці ў вас дастаткова. Цяпер надышоў той самы момант, калі марудзіць нельга і неабходна дзейнічаць. Глядзіце толькі, каб не пацярпелі адносіны з самымі блізкімі для вас людзьмі.

**ВАДАЛЕЙ.** Усе дні будзе панаваць добры настрой і адчуванне нейкага свята. Магчамая вечарынка ці вячоркі з сябрамі, якія прынясуць шмат радасці. Будуць прыемныя моманты і ў дамашняй утульнай абстаноўцы.

**РЫБЫ.** Вы шмат дасягнулі і можаце з поўным правам ганарыцца сабой, даваць указанні і парады іншым. Асабліва гэта характэрна для рабочай абстаноўкі. Але вас чамусьці мучаць страхі, перажыванні і нават бяссонніца з-за таго, што ў адносінах нешта ідзе не па вашым сцэнару. Нічога не бойцеся, усё добра.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Судоку

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | 2 | | | 9 | |
| 9 | 4 | | | | | | 5 | |
| | | | 6 | 7 | 9 | 1 | | |
| 4 | | | 1 | 3 | | | | 8 |
| | | 6 | | | 8 | | | |
| | 5 | | | | 6 | | | 1 |
| | 3 | 4 | | 6 | | | | 5 |
| 5 | 7 | | 8 | | | | 2 | |
| | 9 | 2 | 7 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Адказы на крыжаванку з №38

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Лампас. 4. Бінт. 5. Лакей. 6. Сава. 9. Франк. 11. Кітай. 12. Луза. 13. Смурод. 14. Лагер. 15. Жыццё. 16. Вішнева. 20. База. 22. Блакада. 24. Банда.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Слімак. 3. Бульба. 7. Бекон. 8. Аўтобусы. 10. Брыз. 12. Лайка. 17. Еўнух. 18. Сага. 19. Золата. 21. Люстэрка. 22. Букет. 23. Сажа.

# Маладзечанцы збяруцца, каб паспяваць

МАЛАДЗЕЧНА

**У 18:30 у пятніцу, 12 кастрычніка, у Маладзечне пройдзе спеўны сход.**

Удзельнікі заспяваюць «Любанскія песні».

Вас чакае вядучая Воля Трубач і спецыяльныя госці - аўтэнтычны спявак Уладзімір Ціханаў, а таксама аўтар і кіраўнік «Спеўнага схода» Сяржук Доўгушаў.

Імпрэза пройдзе ў Цэнтралізаванай клубнай сістэме па Лібава-Роменскай, 71.

**Аддзел інфармацыі.**

Рэгіянальная газета.Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

### 29 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 | | +8 | | +3 | | +5 | |
| | +14 | | +12 | | +13 | | +13 | |
| | 736 | → 7 | 745 | ↘ 6 | 746 | ↗ 6 | 741 | ↑ 5 |
| Вільня | +12 | | +6 | | +4 | | +6 | |
| | +14 | | +11 | | +13 | | +13 | |
| | 743 | → 7 | 752 | ↘ 5 | 751 | ↗ 7 | 746 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 7.11
Захад 18.55
Даўжыня дня 11.54

Усход 21.05
Захад 11.52
Квадра 1




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -1.4°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +22,1°С у 1981 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 46,9 мм у 1998 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● **Вулічныя музыкі, гірлянды, ліхтарыкі, смачная ежа і нават вязаная «вопратка», створаная маладзечанцамі спецыяльна для элементаў гарадской вуліцы. Пра тое, як у Маладзечне прэзентавалі вуліцу стрыт-фуда, чытайце ў наступным нумары.**




## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

– Вы любіце цыбулю?
– Да слёз!

***

Усё добрае робіцца доўга. Спачатку яго анансуюць, потым асвячаюць працэс, а затым тлумачаць, чаму адкладваецца. Усё дрэннае робіца адразу.



## Вожык ужо падпісаўся на «Рэгіянальную газету»! А вы? :)



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ СЯРОД МОЛАДЗІ РЭГІЁНА

## Што трэба для таго, каб стварыць сям'ю і нарадзіць дзяцей?



**Ігар Карней, электраманцёр, Маладзечна:**

– Стварыць сям'ю не так ужо і складана. Складаней утрымаць яе на працягу ўсяго жыцця, выгадаваць дзяцей годнымі, зрабіць так, каб яны ні ў чым не мелі патрэбы. Здаецца, для стварэння сям'і трэба каханне і павага, астатняга людзі, як правіла, дасягаюць у такім выпадку.



**Ягор Курылаў, зборшчык мэблі, Маладзечна:**

– Неабходна мець велізарнае жаданне двух сэрцаў, якія любяць, добрае матэрыяльнае становішча і галоўнае – каханне. Лепш спачатку сустрэць тую самую дзяўчыну, каб была апора і падтрымка побач. Удваіх лягчэй дамагчыся ўсяго.



**Руслан Цыбоўскі, станяр-станочнік дрэваапрацоўчых станкоў, Смаргонь:**

– Думаю, што для стварэння сям'і трэба мець жаданне, галаву на плячах і пачуццё адказнасці.



**Сяргей Мароз, працуе на паркетнай фабрыцы станочнікам, Маладзечна:**

– Стабільны даход, працу, сваё жыллё. Вядома, знайсці тую, без якой тваё жыццё не мае сэнсу. Перад тым, як дзяцей заводзіць, трэба дабіцца стабільнага даходу. Бацькі павінны быць разумнымі і адказнымі, каб правільна выхаваць дзяцей.



**Марына Буйневіч, мерчандайзер, Маладзечна:**

– Патрэбны матэрыяльны багаж, каб утрымліваць сям'ю, і стабільны заробак.



**Юры Талькоўскі, настаўнік, Маладзечна:**

– Трэба мець чалавека, з якім шчыра захочаш гэта зрабіць. Ну і, зразумелая справа, магчымасць створаную сям'ю матэрыяльна забяспечыць.



**Дзяніс Міцкевіч, мадэль, Маладзечна:**

– Стабільны даход. Як мінімум 1200 рублёў. У Беларусі з гэтым складана. Трэба стаць паспяховым чалавекам, павінна быць усё: дом, машына, праца. І самае важнае – лепшая жонка, якая падорыць любімае дзіця. Калі адпавядаеш пунктам, мабыць, ты шчаслівы чалавек

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета.Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№39 (1222) 28.09.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 832. Падпісана ў друк у 9.00 27.09.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.